НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 43 (832) 20 лістапада 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў … Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




## Юрый Рубцоў і Леанід Смоўж

«Чаму я быў павінен здымаць майку? Хіба яна кагосьці абражае?» Старонка 3.



## «Шапіра навучыў нас, як трэба жыць»

Рэпартаж з радзімы кіраўніка Міншчыны. Старонкі 4-5.

# «Зоці» і«Джылі», каб мы так жылі

Чым адрозніваюцца кітайскія аўтамабілі беларускай зборкі? **Старонка 6.**



**На фота: салон «Зоці» ў Мінску.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Гаспадарка

## Што будуюць за мінскай кальцавой?

Гіпермаркет «Прастор», аквапарк «Купалле», аўтацэнтр BMW. **Старонка 6.**



### Здарэнні

## У Мінску завёўся жорсткі скуралуп

Дзясяткі катоў і сабак пакалечаны! **Старонка 9.**



### Культура

## Шэсць дзён з Эніа Марыконэ

«Беларусь мне нагадала ГДР, тут цяжка дыхаць». **Старонка 11.**



### Спорт

## Усе сакрэты покера

Чалавек зарабляе анлайн 2000 даляраў у месяц. **Старонка 15.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Кантрактная сістэма стане ўсёабдымнай

Лукашэнка таксама хоча вярнуць **характарыстыкі** з ранейшага месца працы.

Падчас наведвання «Кераміна» Аляксандр Лукашэнка чарговы раз узгадаў сістэму найму на працу. «На працягу паўгода ўсе павінны перайсці на кантракты! У нас яшчэ шмат людзей працуе без кантрактаў! Няхай прафсаюзы зоймуцца гэтым пытаннем. Ва ўсім павінен быць парадак. Так робіць увесь свет», — заявіў ён.

«Нам, відаць, трэба вярнуць нешта накшталт характарыстык з папярэдняга месца працы, — дадаў Лукашэнка. — Вельмі многія разбасячыліся, прэзідэнт прымусіць выплаціць заробак, а мы будзем курыць або п'янымі хадзіць на працу».

Праваабаронцы і незалежныя прафсаюзы крытыкавалі прымусовы перавод работнікаў на кантракты, бо бачылі ў гэтым спосаб палітычнага кантролю над людзьмі. Кожны чалавек можа ў кожны момант страціць працоўнае месца, варта яму ў нечым запярэчыць уладам ці адміністрацыі. Зафіксаваны многія выпадкі звальнення за ўдзел у палітычнай дзейнасці.

А што думаюць пра кантракты незалежныя прафсаюзы? «Наша Ніва» спытала намесніка старшыні Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Сяргея Антусевіча.

**«Наша Ніва»: Што можа змяніцца пасля Лукашэнкавых словаў?**

**Сяргей Антусевіч:** У Беларусі амаль з усімі супрацоўнікамі дзяржаўных прадпрыемстваў заключаныя тэрміновыя кантракты, а вось у прыватным сектары ёсць выключэнні, бо заканадаўства пакідае выбар.

Напрыклад, на «Гродна Азоце» кантрактнікаў 99%. Калі ў 2003 пачалі ўводзіць кантрактную сістэму, каб збіць пратэстныя настроі перад рэферэндумам, усё сямітысячнае прадпрыемства перавялі на тэрміновыя кантракты цягам лічаных месяцаў. Некаторыя адмовіліся заключаць кантракты і паспяхова пераадолелі гэтую сітуацыю. Аднак разам з тым людзі страчвалі грашовыя надбаўкі, якія прадугледжваліся кантрактамі. Дый пры змене месца працы людзі ўсё адно траплялі на кантрактны ланцужок, бо стаяў выбар: ці заключай кантракт, ці не возьмуць на працу.



Гэтая пачварная кантрактная сістэма амаль татальная, таму дзіўна чуць ад Лукашэнкі, што ў нас шмат хто «не на кантракце». Але яшчэ больш дзіўна, што выпраўляць сітуацыю даручана праўладнай Федэрацыі прафсаюзаў. І цяпер сваімі дзеяннямі яны будуць змушаныя перакрэсліць сваю ж, хоць і намінальную, працу па лібералізацыі гэтай сістэмы.

**«НН»: Лукашэнка таксама выказаўся пра вяртанне характарыстык з былога месца працы. Навошта гэта рабіць?**

**СА:** Гэта выказванне не можа выклікаць іранічнай усмешкі. Не сакрэт, што працадаўцы цікавяцца, чаму новы супрацоўнік пакінуў папярэдняе месца працы. І ідэолагі, і аддзелы кадраў карыстаюцца «тэлефонным правам» і высвятляюць абставіны ў былога працадаўцы. Дый работнік зацікаўлены ў добрым рэзюмэ і ўказвае ў яго кантакты асоб, якія могуць даць станоўчую характарыстыку. Навошта рэгламентаваць гэтую сітуацыю ў прававым полі, не зусім зразумела.

**Кірыла Хілько**

### Сцісла

**Даляр танней за 9320 не купіш**

Беларускі рубель працягвае плаўную дэвальвацыю. За апошнія паўгода да даляра ён апусціўся больш чым на 7%. Курс даляра на сераду склаў 9280 рублёў — гэта гістарычны максімум.

**Універмагі Мінска ладзяць 24 лістапада адзіны дзень зніжак**

У гандлёвым доме «На Нямізе» і ў ГУМе зніжка 15% будзе на ўсе тавары, ва ўнівермагу «Беларусь» — 15% на ўсе нехарчовыя тавары, а ў ЦУМе — 5% на прадукты і 15% на нехарчовыя тавары.

**Ліміт разліку наяўнымі — 195 мільёнаў**

Нацбанк прапануе ўстанавіць ліміт разліку наяўнымі грашыма ў памеры 1500 базавых велічыняў. Цяпер гэта 195 мільёнаў рублёў. Маркуецца прыняць гэту норму ў студзені 2014.

**ЯМ**

### Рэкамендуем

**Дзяўчынка ў Баранавічах адстойвае сваё права на беларускасць**

Відэасюжэт пра сям'ю Малашчанкаў.

**Мой кумір — Кастусь Каліноўскі**

Гутарка з баксёрам Віталём Гурковым.

Чытайце на nn.by

### Апытанне на nn.by

**Хто быў для Беларусі горшы: Гітлер або Сталін?**

| | | |
|---|---|---|
| Гітлер | 146 | 10% |
| Сталін | 276 | 19% |
| Абое рабое | 1027 | 71% |

Прагаласавала 1449.

## «Якое права ты маеш жыць на гэтай зямлі?»

Кіраўнік дзяржавы ўмяшаўся **ў справу** гомельскага **смяротніка**.

Жыхар Гомеля Аляксандр Груноў стаў першым «смяротнікам», прысуд якому быў адменены, а справа накіраваная на перагляд. Праваабаронцы ўбачылі ў гэтым знак магчымай адмены смяротнага пакарання ў краіне.

Нагадаем, Груноў абвінавачваецца ў здзяйсненні забойства з асаблівай жорсткасцю (студэнтка Наталля Емяльянчыкава атрымала 102 нажавыя раненні). Суд над ім завяршыўся ў чэрвені. Тады яго прысудзілі да выключнай меры пакарання — расстрэлу. Аднак касацыйная скарга ў Вярхоўны суд дала плён — адвакаты адшукалі ў справе працэсуальныя памылкі і дабіліся яе перагляду.

Аляксандр Груноў быў пераведзены з камеры смяротнікаў мінскага СІЗА №1 у СІЗА Гомеля.

Нечакана ў сітуацыю ўмяшаўся Аляксандр Лукашэнка. На сустрэчы з генпракурорам Аляксандрам Канюком ён узгадаў забойства ў Гомелі.

«Калі ты, нягоднік і падонак, ідзеш і не першы раз ужо робіш злачынства, забіваеш чалавека, то якое права ты маеш жыць на гэтай зямлі? Я не крыважэрны, але адплата і пакаранне павінны быць адпаведнымі, — заявіў кіраўнік дзяржавы. — У адваротным выпадку мы ніколі не навядзём парадак і ніколі не панізім тэмпературу ў грамадстве. Цяжкія, асабліва цяжкія злачынствы: вінаваты — адказвай на ўсю катушку».

Сугучная з ім і маці забітай дзяўчыны Ірына Емяльянчыкава. «Я шакаваная — гэта несправядліва. Такія людзі, як Груноў, не выпраўляюцца. Калі ён выйдзе на свабоду, то першай ахвярай буду я!» — заявіла яна.

Менавіта таму смяротныя прысуды калі і замяняюць, то на пажыццёвае пакаранне.

Паўторны суд над гамельчуком пачнецца 26 лістапада.

**ЯМ**





### Самае чытанае на nn.by за 13-19 лістапада

1 На вячоркі: як дзве Крысціны ў Dozari з Віцебска ехалі — фотарэпартаж

2 Незаменны сілавік Леанід Мальцаў. Рэпартаж з радзімы чыноўніка

3 Лукашэнка — ураду: Я вам адвінчу галаву, пакладу пад паху і пойдзеце, калі зможаце

4 Батура не выйшаў на працу ў «Барысаўдрэве», хоць яму пагражалі крыміналкай

5 Малады бацька з Наваполацка памёр пасля затрымання міліцыяй — разрыў кішак

6 Досыць гераізаваць дыверсантаў з «Дальвіца»

7 Забойства ў імя ідэалу — гутарка з анарэксічкай

8 Скарлет Ёхансан: Жанчыны таксама любяць порна

9 У Татарстане разбіўся «Боінг»: 50 ахвяраў, сярод іх сын прэзідэнта

10 Былы прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта заявіў, што яго збілі ў выцвярэзніку

# «Чаму я быў павінен здымаць майку? Хіба яна кагосьці абражае?»

**Юрый Рубцоў і Леанід Смоўж** адказалі на пытанні «Нашай Нівы».

На акцыю на Дзяды гамяльчук Юрый Рубцоў выйшаў у майцы «Лукашэнка, сыходзь». У выніку яго затрымалі і асудзілі на трое сутак арышту. Праз тыдзень на шэсце ў Лошыцкі Яр ужо жыхар Стоўбцаў Леанід Смоўж выйшаў у майцы «За Беларусь без Лукашэнкі! За Беларусь без дыктатуры». Яго таксама пасадзілі на Акрэсціна (5 сутак арышту). У наш час такія персанальныя акцыі ўражваюць сваёй мужнасцю. «НН» паразмаўляла з непасрэднымі ўдзельнікамі гэтых падзей.

**«Наша Ніва»: Дзеля чаго Вы выйшлі ў майцы на акцыю пратэсту?**

**Юрый Рубцоў:** Я ж не ўпершыню адзеў 10 мая. Хаджу ў ёй па Гомелі. Канечне, спачатку ногі трэсліся. Але пасля я падумаў, што ніякіх абразаў гэты надпіс не ўтрымлівае. Адзеў для таго, каб людзі перасталі баяцца. Усе ўсё разумеюць, але ўголас не выказваюцца. Два тыдні людзі, бачачы мяне ў гэтай майцы, проста адводзілі вочы.

**Леанід Смоўж:** Я выйшаў, каб выказаць пратэст тым новаўвядзенням, што ён прымае. Асабліва мяне абурыла прапанова падатку аб «дармаедстве». У мінулым годзе я ледзьве прайшоў медкамісію, каб працягнуць працаваць. Калі налета я яе не прайду, то стану «дармаедам» і буду плаціць за гэта 300 даляраў? Мяне абурае, што мы не адзначаем Дзень Канстытуцыі, іншыя важныя даты, затое адзначаем Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Хаця адзначаем не мы, а адзін чалавек.

**«НН»: Вы стала ўдзельнічаеце ў акцыях пратэсту?**

**ЮР:** Сёлета быў на Дні Волі. На «Чарнобыльскі шлях» трапіць не змог. Да гэтага жыў у Маскве, таму не мог удзельнічаць.

**ЛС:** Далучыўся дзесьці ў 2010 годзе. Ад гэтага часу прымілгаўся.

**«НН»: Чаму цяпер рэдка хто адважваецца на дзёрзкія акцыі пратэсту, кшталту вашай?**

**ЮР:** Запалоханыя бо. Узгадайце гэтых дзяўчатак украінскіх з «Фемен». Запалоханыя не толькі людзі, але і палітычныя сілы. Іх штурхаюць на выбары, якіх няма, і яны ідуць.

**ЛС:** Я нават не ведаю, што сказаць. Бачу страх. Нават у калектыве, дзе я працую. Адну жанчыну з працы ў 2011 годзе падчас маўклівых акцый пратэсту затрымалі і запхнулі ў аўтазак, хоць яна проста ехала ў магазін. Не ведала, што гэта і чаму такое робіцца. Аднак баяцца нешта выказваць. Кажу ўсім: паехалі са мной у Мінск на акцыю. Дык кажуць, што не, мы лепш увогуле ў гэты дзень у Мінск не паедзем.


Леанід Смоўж беспартыйны, а на мітынгі стаў хадзіць у 2010 годзе.

**«НН»: На акцыі казалі зняць майку?**

**ЛС:** Міліцыя не казала. Казалі нейкія невядомыя мне людзі ў цывільным. Чаму я быў павінен яе здымаць? Хіба яна кагосьці абражае?

**ЛС:** Міліцыя — не. Беленькі і кампанія казалі, каб зняў, ім праблемы не патрэбныя. Я адмовіўся, бо мая пазіцыя такая. Я часта ўзгадваю свайго дзеда, які нарадзіўся ў 1899 годзе. Прайшоў вайну, працаваў за капейкі ў калгасе. У выніку яго пенсія была 12 рублёў. Вазіў у Мінск малако на продаж, спрабаваў зарабіць хоць нейкую капейчыну, ашчадзіць на жыццё. Памёр у 1977-м, капаў бульбу і прастудзіўся, а праз пяць дзён яго не стала. Вось я бачу, што сітуацыя пачынае паўтарацца.

**«НН»: Не думалі, што апынецеся на сутках?**

**ЮР:** Думаў, што перад самітам Усходняга партнёрства ў Вільні не адважацца саджаць на суткі.

**ЛС:** У жыцці трэба праз усё прайсці.

**«НН»: Міліцыя да вас нармальна ставілася?**

**ЮР:** Так, на Акрэсціна абсалютна нармальна. Шараговыя супрацоўнікі ставіліся да мяне з павагай. Толькі ўжо ў Гомелі пры паўторным затрыманні адзін падпалкоўнік сказаў, што такіх, як я, трэба забетанаваць.

**ЛС:** Мне здаецца, што да сукамернікаў, якія сядзелі не па палітычнай справах, ставіліся горш. А так больш-менш нармальна. Толькі пры затрыманні закруцілі рукі.

**«НН»: Якія ўмовы на Акрэсціна?**

**ЮР:** Я сказаў, што чалавек натуральным чынам павінен прыбіраць за сабой — гэта не катаванне. Катаванне — калі не маеш прыладаў, каб гэта рабіць. Пасля маёй скаргі ў камеры з'явіўся ёршык. Што тычыцца ежы, то прадпрыемства, якое пастаўляе туды харчаванне, трэба пазбавіць ліцэнзіі.

**ЛС:** Уявіце, ацяпленне не было зусім. Гарэла адна нейкая лямпачка ў куце, вельмі слабая. У мяне зрок кепскі, пры такім асвятленні нічога прачытаць не мог. Голад інфармацыйны ўвесь час адчуваўся. Была толькі радыёкропка. Я вось нават падумаў, калі чалавек у адзіночку трапіць, ды пастаянна яму беларускае радыё круціць, то ён хутка звар'яцее.

**«НН»: Раскажыце напрыканцы трохі пра сябе.**

**ЮР:** Нарадзіўся ў 1961-м у Гомелі. Тут і жыву. Усё жыццё адпрацаваў шафёрам. Працаваў на водаканале. Там не працягнулі кантракт. З'ехаў у Маскву, там адпрацаваў 4,5 года. Апошнім часам працую ў прыватным цэнтры будаўніцтва і рамонту. Беспартыйны.

**ЛС:** Нарадзіўся ў 1960-м у вёсцы Засулле Стаўбцоўскага раёна. Цяпер жыву ў Наваколасаве. Вучыўся ў Ленінградскім інстытуце элетратэхнічнай сувязі, але не скончыў, бо якраз тады пачаўся развал СССР. Тры гады праслужыў прапаршчыкам у войску. Цяпер працую машыністам матавоза. Беспартыйны.

Гутарыў Зміцер Панкавец



Юрый Рубцоў носіць такую майку заўсёды.

## Цытата



**Лукашэнка — ураду: Я вам галаву адвінчу і пакладу пад паху**

«Была прынята праграма. Будзе тое, што з дрэваапрацоўкай. Я вам проста адвінчу галаву, пакладу пад паху, і пойдзеце, калі зможаце. Я вам не дарую. Гэта шалёныя грошы», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы транспартналагістычны цэнтр «Мінск — Белмытнясэрвіс-2».

## Фотафакт


Вышэйшы гаспадарчы суд адмовіў Ігару Логвінаву ў ягонай спробе вярнуць выдавецкую ліцэнзію. Дзясяткі пісьменнікаў прыйшлі падтрымаць Логвінава ў суд з Міністэрствам інфармацыі. Справу разглядала суддзя Таццяна Праташчык. Інтарэсы Міністэрства інфармацыі ў судзе баранілі дзве спецыялісткі з юрыдычнай службы.

## Сцісла

### Памерла сацыёлаг Галіна Дракахруст

Апошнія шэсць месяцаў яна змагалася з анкалогіяй. Ёй было 54 гады. Кандыдат філасофскіх навук Галіна Дракахруст часта з'яўлялася ў СМІ з публікацыямі ў 1990-я. 12 гадоў таму яна разам з мужам, палітычным аналітыкам Юрыем Дракахрустам з'ехала ў Прагу.

### У ЕГУ ўвялі кодэкс паводзінаў

У Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ўведзена адказнасць за «распаўсюджанне неабгрунтаванай інфармацыі аб працэсах, што адбываюцца ва ўніверсітэце». ЕГУ — беларускі ўніверсітэт, які пасля закрыцця ў Мінску пераехаў у Вільню.

### Дэмбель маладафронтаўца Мускага

Міхася Мускага забралі ў армію проста з сутак пасля «Чарнобыльскага шляху» ў 2012. Спачатку далі 15 сутак, затым накінулі яшчэ пяць. І ў выніку адвезлі ў ваенкамат. Служыў у Слуцку.

### Еўрасаюз можа адмяніць візы для Малдовы

У Еўракамісіі кажуць, што Малдова выканала ўсе неабходныя патрабаванні для візавай лібералізацыі з ЕС. У бліжэйшы час ЕС прапануе Радзе ЕС зняць візавыя патрабаванні для паездак грамадзян Малдовы ў свае краіны. Пра гэта заявіў старшыня Еўрапейскай камісіі Жазэ Мануэль Барозу.

### На выбарах у Чылі змагаюцца жанчыны

У лідарах першага тура дзве жанчыны: былая прэзідэнтка краіны Мішэль Бачэлет (46%) ад Сацыялістычнай партыі і Эвелен Матэі (25%) ад Незалежнага дэмакратычнага саюза. Яны абедзве — дочкі генералаў, сябравалі ў дзяцінстве. Бацька Матэі некалі падтрымаў Пінача, а бацька Бачэлет загінуў у турме падчас кіравання Пінача. Прэзідэнт Чылі абіраецца на адзін тэрмін, але з магчымасцю стаць прэзідэнтам ізноў праз адзін тэрмін. Чылі — адна з багатых краін Паўднёвай Амерыкі.

ЗП, СМ

# «Шапіра навучыў нас,

**На радзіме кіраўніка**
Міншчыны памятаюць і яго, і ягонага бацьку.

Аляксандр Лукашэнка прызначыў Сямёна Шапіру старшынёй Мінскага аблвыканкама. Апошнія некалькі гадоў той кіраваў Гродзеншчынай.

«Я Сямёна Барысавіча бачыў ва ўрадзе, але ён хоча займацца жывой працай», — сказаў на наступны дзень кіраўнік дзяржавы. Значыцца, у Шапіры ёсць перспектывы вярнуцца ў міністэрскае крэсла, а то і скочыць вышэй?

Да яго прыцягнута больш увагі, чым да некаторых яго безаблічных калег. Макей, Латушка, Шапіра... — на кожнага з іх ускладаліся пэўныя надзеі па «ачалавечванні» дзяржаўнага апарата. Ад іх патрабавалася калі не апраўдаць надзеі, то хаця б не надта расчараваць. Ці ўдалося гэта Шапіру?

Калі б не гучны скандал са звальненнем гродзенскіх гісторыкаў, задачу можна было б лічыць выкананай.

«Шапіра разумны ды цынічны, — кажа адзін з «пацярпелых» ад дзеянняў губернатара Андрэй Чарнякевіч. — Пры іншых умовах быў бы выдатным лібер態лам. Аднак цяпер запатрабаваныя жандары...»

### Яўрэй з няпростай сям'і

Чым Сямён Шапіра вылучаецца сярод іншых высокіх чыноўнікаў?

Па-першае, гэта адзін з нямногіх выхадцаў з «няпростых» сем'яў. Большасць лукашэнкаўскіх чыноўнікаў — гэта вяскоўцы, якія, прыехаўшы ў горад вучыцца, праўдамі і няпраўдамі дасягалі свайго высокага статусу. У Сямёна Шапіры — сына прафесара, лаўрэата савецкіх медалёў і ордэнаў, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР — сітуацыя была іншая.

## Нацыянальнасць не дазволіла Барысу Шапіру атрымаць званне Героя сацыялістычнай працы

Па-другое... Тэрмін «пятая графа» добра вядомы для Шапіры. Наколькі ён перашкаджаў ці, наадварот, дапамагаў Шапіру рабіць кар'еру, ведае толькі ён сам.

Аднавяскоўцы ж перакананыя, што менавіта нацыянальнасць не дазволіла ягонаму бацьку атрымаць званне Героя сацыялістычнай працы. А самога Сямёна, які ў школе не даваў спісваць аднакласнікам, дражнілі. «Толькі пра гэта не трэба пісаць, — смеючыся, удакладняюць яны. — Мы ж не са злосці. Ён выдатнік быў, а мы сераднячкі».

### Як гарадскі навучыў вяскоўцаў

Родная вёска новапрызначанага губернатара — вёска Рачэнь Любанскага раёна. Што памятаюць пра славутага земляка і яго бацькоў на малой радзіме? «Сяброў Шапіры шукаеце? Ездзьце да Канстанціна Верамейчыка», — раіць першы ж мінак.

Бацька Сямёна, Барыс Міронавіч, жыў у хаце Верамейчыкаў, калі апынуўся ў Рачэні. Шапіра-старэйшы прыехаў пасля заканчэння Гомельскага педінстытута, каб працаваць настаўнікам гісторыі. Сам ён нарадзіўся на Рагачоўшчыне, на мяжы Гомельскай і Магілёўскай абласцей.

Папрацаваўшы пару гадоў настаўнікам, Шапіра перабраўся ў суседні Турок, ужо на пасаду дырэктара Асавецкай школы.

Вяртанне ў Рачэнь было трыумфальным, хоць і нечаканым. «Барыс быў самародак, — узгадвае Канстанцін Верамейчык. — Мы здзіўляліся, як можа гарадскі настаўнік так добра разбірацца ў сельскай гаспадарцы?»

Вось мясцовыя жыхары і запатрабавалі прызначыць Барыса старшынёй калгаса. Месца вызвалілася пры трагічных абставінах.

«Гэта ж цяпер карупцыя. А тады піць — пілі, затое не кралі. Ні калгаснікі, ні начальства. Не прынята было», — расказвае спадар Канстанцін. Так папярэдні старшыня і спіўся...

Узначальваць калгас Барыс не надта хацеў, са смехам казаў сябрам, што яго падманулі. «Як ні адбіваўся, партыя загад не адмяніла, — расказваў Шапіра-старэйшы мясцовай газеце «Голас Любаншчыны». — Калі прыехалі на калгасны сход у клуб, людзі не змяшчаліся, але ў залу мяне прапусцілі. Народ, што ўжо быў там, убачыў нас з сакратарам райкама, устаў, заапладзіравалі... А сакратар і кажа: маўляў, дазвольце лічыць вашы апладысменты адзінагалосным абраннем».



**Сямён Шапіра**

Нарадзіўся ў 1961 у вёсцы Рачэнь на Любаншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1983). Працаваў галоўным эканамістам і старшынёй калгасаў у Дзяржынскім раёне. У 1999—2004 — у структуры Міністэрства сельскай гаспадаркі, у 2004—2008 — генеральны дырэктар агракамбіната «Дзяржынскі». У 2008—2010 — міністр сельскай гаспадаркі. У 2010-2013 — старшыня Гродзенскага аблвыканкама, з лістапада 2013 — старшыня Мінскага аблвыканкама.

ЯН ЛЯЛЕВІЧ T-STYL.INFO

### Беларускамоўны інтэрнацыянал

У той час Барыс ужо быў жанаты. Жонка Ганна Навумаўна таксама нарадзілася на Гомельшчыне і таксама была настаўніцай — выкладала матэматыку. «Яны пазнаёміліся ў Асавецкай школе. Ганна ж таксама была габрэйкай. Іх габрэі і звялі... Яны ж звычайна такія, што імкнуцца разам трымацца», — расказвае яе сяброўка, таксама настаўніца матэматыкі Мар'ям Сайфулінаўна Скрыган.

Татарская дзяўчына прыехала на Любаншчыну з Туркменістана. Гэта не перашкодзіла ёй вывучыць беларускую мову і выкладаць у мясцовай школе па-беларуску. Для вучняў яе імя і імя па бацьку былі занадта складанымі, таму вяскоўцы «спрасцілі» да Марыі Сафіеўны.

«Гэта ж мы між сабой на трасянцы размаўляем. А калі трэба ўрок весці ці нейкую дакументацыю запоўніць — то ўсё выдатна па-беларуску робім», — тлумачыць Ганна, колішняя вучаніца маці Шапіры. Цяпер яна сама вучыць дзяцей матэматыцы ў Рачэньскай школе.



**Барыс Шапіра — ганаровы жыхар Любані.**

### Дырэктар-рэфарматар

Вярнуўшыся ў Рачэнь, Барыс Шапіра пачаў рэформы ў мясцовым калгасе.

Ён змяніў сістэму арганізацыі вытворчасці. Замест вялікіх брыгад стварыў невялікія «звёны», якія адказвалі за ўвесь тэхналагічны цыкл. Капіталістычны прынцып: больш вырабіў — больш зарабіў.

І ў Шапіры ўдалося. Гаспадарка і да яго мела нядрэнныя паказчыкі, а пры ім стала самай ураджайнай і надойнай у вобласці.

«Калгас не ведаў, куды грошы траціць! Давалі «трынаццатыя зарплаты», пабудавалі Дом культуры, сталовую, краму, у хаты правялі водаправод... Пасля Шапіры ўжо ніхто нічога не будаваў. Ён навучыў нас, як трэба жыць», — узгадваюць вяскоўцы.

«Барыс быў строгім, але справядлівым. Быў патрабавальным нават да сваіх родных, — узгадвае Мар'ям Сайфулінаўна. — Ён забараніў жыхарам рэзаць цялятаў. Маўляў, калі трэба — то здавайце ў калгас. А жонка цішком купіла ў суседкі цяля і зарэзала. Дык ён лаяўся на Ганну: «Чаго мае загады не выконваеш?!»

### Вялікая сям'я

Поспехі Рачэні заўважылі ў Мінску, і Барыса Шапіру абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. А ён сам уладкаваўся ў Беларускі навукова-даследчы інстытут аграрнай эканомікі — навукова абгрунтоўваў свае напрацоўкі і ўкараняў іх па ўсёй краіне.

У Мінск Шапіры ехалі з двума дзецьмі, яшчэ адным Ганна была цяжарная. Першынец Навум, названы ў гонар дзядулі па матчынай лініі, нарадзіўся яшчэ ў Асаўцы. Ён знайшоў сябе ў будаўнічай сферы, працаваў начальнікам у адным са сталічных будаўнічых трэстаў. Сярэдні, Сямён, з'явіўся на свет у



**Хату ў Рачэні Шапіры прадалі, калі пераязджалі ў сталіцу.**

# як трэба жыць»

Рачэні, а малодшы, Андрэй, — ужо ў Мінску. Цяпер ён жыве ў Германіі і працуе праграмістам.

Браты не цураліся вясковай працы, расказваюць суседзі. Калі іншыя дзеці бачылі сыноў старшыні на дапаможных працах у калгасе, пыталіся: «Мы прыйшлі, каб на цукеркі зарабіць, а вы чаго прыйшлі? Хіба ў вас грошай няма?» — «Мы прыйшлі дапамагаць роднаму калгасу!» — з гонарам адказвалі малыя Шапіры.

### Сціплы студэнт

«Сямён жа ўладкаваў маці на працу! — смяецца настаўніца Ганна. — Тая была ў дэкрэтным адпачынку з меншым Андрэем. Сямён пайшоў вучыцца ў мінскую школу каля дома і даведаўся, што там якраз бракуе настаўніцы матэматыкі. Дык Ганна Навумаўна туды і ўладкавалася».

Пасля школы будучы губернатар паступіў у наргас (цяперашні БДЭУ). Сын Канстанціна Верамейчыка быў на некалькі гадоў старэйшым за Сямёна, аднак ва ўніверсітэце яны вучыліся на адным курсе, бо Шапіра не пайшоў у войска. Зрэшты, гэта не перашкодзіла яму разам з іншымі губернатарамі летась атрымаць пагоны генерал-маёра з рук Аляксандра Лукашэнкі...

«Я свайму сыну яго заўсёды ў прыклад ставіў. Мой — то ў джынсах, то ў нейкіх штанах жоўтых... — смяецца Верамейчык. — А Сямён у простым касцюме хадзіў, хоць і бацькі багатыя. Пакуль не зносіць — ходзіць у адным касцюме».

### Адаптацыя да рынку

Барыс Шапіра ў 1970-я, яшчэ працуючы старшынёй калгаса, абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Інтэнсіфікацыя малочнай жывёлагадоўлі». Праз дваццаць гадоў ён стаў доктарам эканамічных навук, абараніўшы даследаванне «Арганізацыя працы ў сельскай гаспадарцы». Аўтарству Барыса Шапіры належаць некалькі сотняў навуковых прац. Напрыклад, ён займаўся абгрунтаваннем новай канцэпцыі, паводле якой заробкі калгаснікаў фарміраваліся не ад аб'ёмаў выкананай працы, а ад атрыманай прадукцыі з улікам колькасці і якасці. А ў 1990-я заняўся практычнымі прапановамі па адаптацыі калгасаў і саўгасаў да рынкавых умоваў.

### Навуковая кар'ера ў бацькавым інстытуце

У 1983—1989, пасля заканчэння наргаса, Сямён Шапіра працаваў у саўгасе «Камсамолец», адтуль перабраўся ў калгас «Маяк». Гэта ўсё Дзяржынскі раён.

Тады ж ён пачаў ісці па шляху бацькі, спалучаючы працу і навуковыя даследаванні на эканамічную тэматыку.

Сямён Шапіра рабіў навуковую кар'еру ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце аграрнай эканомікі — тым самым, дзе больш за 30 гадоў працаваў ягоны бацька.

Сямён давучыўся ў аспірантуры ў 1991-м. Тады ж, імаверна, ён і стаў кандыдатам эканамічных навук.

**Сямён Шапіра — дзейны сябар Аб'яднанай грамадзянскай партыі**

Аднак аўтарэферат ягонага даследавання ў электронным каталогу дысертацый Нацыянальнай бібліятэкі знайсці не ўдалося.

Дактарантуру ён скончыў у 1999-м. У той час Сямён Шапіра быў... дырэктарам інстытута, у якім вучыўся. Нонсэнс, кажуць пра гэту сітуацыю навукоўцы.

Тэмай даследавання Сямёна стала «Кіраванне ў аграпрамысловым комплексе пры фарміраванні рынкавых адносін». Як найбольш эфектыўна перайсці ад планавай да рынкавай эканомікі? Ён прапанаваў рэформу Міністэрства сельскай гаспадаркі: скараціць кіруючы апарат на 50% і накіраваць дзяржслужачых у сферу вытворчасці.

### Стваральнік аграпрамысловых комплексаў

У пачатку 1990-х Сямён Шапіра вызначыўся з грамадскай пазіцыяй.

«Ён актыўна працаваў у аргкамітэце па распрацоўцы праграмы і статута Грамадзянскай партыі. Па сваіх унутраных перакананнях Шапіра нібыта ліберал. Гэта быў адзін з нямногіх аграрыяў, якія разумелі, што калгасная сістэма асуджаная. Іншая справа, што цяпер ён вымушаны падтрымліваць гэтую сістэму», — кажа Васіль Шлындзікаў, былы прэзідэнт «Амкадора», які ў сярэдзіне 1990-х быў сустаршынёй партыі. Шапіра дагэтуль не пісаў заяву на выхад з арганізацыі, удакладняе ён.

Пасля двух гадоў працы дырэктарам інстытута Сямён Шапіра стаў дырэктарам дэпартамента эканомікі ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Менавіта яму прыпісваюць ідэю стварэння буйных аграпрамысловых комплексаў ва ўсёй краіне.

А сам Шапіра, пралабіраваўшы ўзбуйненне агракамбіната «Дзяржынскі», у 2004-ым стаў яго дырэктарам. Не атрымліваючы вялікіх дзяржаўных датацый, ён дэманстраваў добрыя вынікі працы. Мясцовая гаспадарка дагэтуль адна з найлепшых у краіне.

З Дзяржынска Шапіра перасеў у крэсла міністра сельскай гаспадаркі. Дарэчы, праз некалькі гадоў тым самым шляхам — з «Дзяржынскага» ў міністры — прайшоў ягоны наступнік Леанід Заяц. Сямён Шапіра тады ўжо шчыраваў у Гродне.

### Жорсткі, як Лукашэнка

Папярэднік Шапіры на пасадзе гродзенскага губернатара Уладзімір Саўчанка пратрымаўся на гэтым месцы амаль дзесяць гадоў, заслужыўшы славу знішчальніка гістарычнай часткі Гродна. Пачуць пра Саўчанку хоць якое добрае слова было складана — імідж самадура замацаваўся за ім трывала.

На ягоным фоне любы новы начальнік глядзеўся выйгрышна. На свабодалюбівай Гродзеншчыне ад Шапіры чакалі хаця б чалавечага стаўлення да людзей. Нездарма ў 2010-м падчас падвядзення вынікаў года «Наша Ніва» назвала ягоную асобу ў намінацыі «Аванс года».

Але якім жа трэба быць кіраўніком, каб Лукашэнка заявіў на ўсю краіну пра тваю жорсткасць? «Сямёну Барысавічу ўласцівы рэзкаваты стыль працы. Пасля такога часу жорсткага кіравання вобласцю ... будзе нядрэнным больш спакойны стыль, больш інтэлігентны. Шапіра па стылі прыкладна як прэзідэнт, вельмі рэзкі, жорсткі», — заявіў кіраўнік дзяржавы падчас прызначэння Шапіры на новую пасаду.



Трэцякласнік Сёма.

**Нерэлігійныя габрэі**

Навукоўцы ўказваюць некалькі магчымых варыянтаў утварэння прозвішча «Шапіра». Гэта альбо слова «дасканалы» ў арамейскай мове, альбо «сапфір» у сярэдне-верхненямецкай. Паводле іншай версіі, прозвішча распаўсюдзілася дзякуючы равінам, якія пасля пагромаў у заходненямецкім горадзе Шпаеры ў XI стагоддзі рассяляліся па суседніх краінах.

Але габрэйскіх традыцый Шапіры не трымаліся, узгадваюць вяскоўцы. Зрэшты і іншых вяскоўцаў рэлігійнымі назваць складана — у Рачэні дагэтуль няма ніводнай царквы.

### Публічны палітык

А Шапіра насамрэч працаваў як Лукашэнка: ладзіў бясконцыя папуліцкія прэс-канферэнцыі і рабіў выгляд эксперта ў любой галіне. Фактычна, ён адзіны з губернатараў паводзіў сябе як сапраўдны палітык, а не «моцны гаспадарнік», прызначаны глядзець эканоміку, і нічога больш.

Сёлета губернатар пачаў разбірацца з заробкамі гродзенскіх футбалістаў. Як выявілася, трэнер мясцовага «Нёмана» Сяргей Саладоўнікаў зарабляе неадэкватныя 24 мільёны рублёў. «Гэта заробак трох маіх намеснікаў!» — публічна абураўся Шапіра. І папрасіў палічыць, колькі каштавала бюджэту кожная хвіліна знаходжання на полі замежнага футбаліста «Нёмана» з заробкам 32 мільёны рублёў.

Скандал 2012 года — паўсюдная высечка лесапалосаў уздоўж дарог на Гродзеншчыне. Адказнасць за прыняцце рашэння не браў на сябе ніводны мясцовы начальнік, ківаючы ў бок кіраўніцтва аблвыканкама, маўляў, дурны загад прыйшоў адтуль.

А былі ж яшчэ і сутычкі гродзенскіх чаўнакоў з АМАПам... Гандляры патрабавалі сустрэчы з губернатарам. Той прыехаў, але цярпення яму хапіла ненадоўга. Раззлаваўшыся, Шапіра з'ехаў. Пачаўся хапун.

На гэтым фоне губляюцца і некалькі паспяховых інфраструктурных праектаў, напрыклад, заканчэнне будаўніцтва аб'язной трасы «Мінск — мяжа з Польшчай» і кальцавой гродзенскай дарогі.

### Паддывановая барацьба

Аднак на публіку выносілася далёка не ўсё. Пра імгненную змену кіруючай эліты ў Шчучынскім раёне грамадскасці стала вядома дзякуючы расследаванню блогера d-zholik.

Новым старшынёй райвыканкама нечакана прызначылі 32-гадовага Сяргея Ложачніка. Гэта самы малады раённы кіраўнік у краіне! Ложачнік рабіў кар'еру ў агракамбінаце «Дзяржынскі» і Міністэрстве сельскай гаспадаркі. Па «дзіўным» супадзенні гэтыя ўстановы ўзначальваў менавіта Шапіра.

У той жа час у Шчучынскім раёне змяніліся начальнік мясцовай міліцыі, пракурор і галоўны суддзя. На іх месца таксама прыйшлі малавядомыя маладзёны, прычым прыезджыя з іншых рэгіёнаў. Супадзенне? Наўрад ці. Цяпер жыхары раёна гадаюць, ці павылятаюць новыя начальнікі са сваіх пасадаў услед за сыходам Шапіры...

### Ціхі беларусізатар

Шапіра запомніўся і спробай мяккай беларусізацыі гродзенскіх чыноўнікаў. У канцы 2010-га, падчас грамадска-палітычнай лібералізацыі ў краіне, Гродзенскі аблвыканкам перайшоў на беларускую мову.

Гэта быў не загад, а «пажаданне» губернатара. У выніку, нарады пачалі праводзіцца па-беларуску, ды і дакументацыя вялася на нацыянальнай мове.

На публіцы Шапіра на ўсялякі выпадак адхрышчваўся ад аўтарства эксперыменту, а пасля разгрому Плошчы і ўвогуле спыніў ініцыятыву.

Аднак сёлета з аблвыканкама зноў прыйшлі чуткі: неафіцыйная беларусізацыя аднаўляецца.

### Пошук ворагаў

З такім багажом можна было б прэтэндаваць на званне галоўнай надзеі беларускіх патрыётаў... Калі б не скандал з «Гродназнаўствам» і расправа з ягонымі аўтарамі. Шыкоўна выдадзеная кніга гродзенскіх гісторыкаў знікла з продажу, а яны самі трапілі ў няласку, іх выгналі з універсітэта.

Замест таго, каб адмаўчацца, Шапіра вырашыў прадэманстраваць сваю «шчырасць». «Наконт Чарнякевіча прымаў загад я асабіста», — раскрыў таямніцу звальнення гісторыка і дацэнта ГрДУ Шапіра.

«Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжою. За чые грошы? — абураўся ён падчас прэзентацыі новага рэктара ўніверсітэта. — Не, каб да мяне прыйсці і пагаварыць!»

Канчаткова шакаваў прысутных Шапіра, заявіўшы, што рэгулярна чытае зводкі КДБ: «Ва ўніверсітэце шаснаццаць чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу!»

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, Рачэнь—Мінск**



Губернатарская дачка Ганна Шапіра.

**Сям'я**

Сямён Шапіра ажаніўся з дзяўчынай з Обчына — вёскі, суседняй з роднымі Рачэнямі. Беларуска Антаніна працавала аграномам.

У сям'і двое дзяцей. Старэйшы, Андрэй, нядаўна справіў вяселле, узгадалі вяскоўцы. А малодшая дачка Ганна вучыцца на другім курсе юрыдычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Гены пальцам не раздушыш: падчас мінулай сесіі Ганна атрымала сярэдні бал «9,4». Гэта найлепшы паказчык сярод аднакурснікаў і трэці ў цэлым на юрфаку.



Першы час у Гродне Шапіра жыў у сціплай гасцініцы. А пасля аблвыканкам адрэстаўраваў шыкоўны асабняк у цэнтры горада.

# Што будуюць на МКАД?

Мінская кальцавая аўтадарога — самая загружаная сталічная вуліца. Паводле падлікаў ДАІ, на некаторых участках сутачны трафік падбіраецца да 200 тысяч аўтамабіляў. Да размешчаных тут гандлёва-забаўляльных цэнтраў можна хутка дабрацца з любога пункта горада.

Аднак забудоўваюцца месцы каля МКАД няхутка, вакол сталіцы безліч пустога месца.

«Наша Ніва» наведала асноўныя будаўнічыя пляцоўкі на кальцавой дарозе. Што паўстане на іх месцы?













## 1. Гіпермаркет «Прастор»

Пляцоўку пад забудову на выездзе з Прытыцкага атрымаў самы багаты мільянер Юрый Чыж. Ягоны «Прастор» зойме большую частку будынка. Мяркуючы па рэкламных шчытах, унутры будзе і крама будматэрыялаў Mile.

## 2. Аквапарк «Купалле»

Першы сталічны аквапарк будзе адкрыты на выездзе з Пераможцаў 1 мая 2014. Разам з прылеглымі тэрыторыямі ён будзе займаць 38 га і стане пятым па памеры ў Еўропе. Адначасова тут змогуць плёскацца да 2 тысяч мінчукоў.




## 3. Аўтацэнтр BMW

Самы вялікі аўтасалон BMW ва Усходняй Еўропе блізкі да адкрыцця. Палову будынка ў Цне зоймуць шоу-рум і цэнтр продажаў аўтамабіляў, другую палову — станцыя сэрвіснага абслугоўвання. Аўтасалон мае быць здадзены да канца года.

## 4. Будаўнічы гіпермаркет Mile

Гандлёвы цэнтр ALL House знаходзіцца праз дарогу ад аўтацэнтра. Яго будуе кампанія А-100 мільянера Аляксандра Цэнцера. Ягоным цэнтрам стане будаўнічы гіпермаркет Mile. Па краях — крама тэхнікі «Пяты элемент» і прадуктовы супермаркет «Родная старонка».

## 5. «Бульбаш-Хол»

Працы на самым скандальным будаўнічым праекце Мінска прыпыненыя. Хто будаваў «Бульбаш», дагэтуль невядома. Але тое, што гэта адбывалася каля месцаў масавых пахаванняў у Курапатах, абурыла многіх.

## 6. «Футурыс»

Офісны цэнтр каля станцыі метро «Барысаўскі тракт» пачыналі будаваць італьянскія інвестары, аднак пасля перасварыліся між сабой. Цяпер аб'ект аддалі дабудоўваць нападаючаму прэзідэнцкай хакейнай каманды Паўлу Беламу. Ягоны «Тапас» становіцца адным з найбуйнейшых забудоўшчыкаў Мінска.




## 7. «Вёска гіпермаркетаў»

Вялікі інвестыцыйны праект «Белсвісбанка» ў Курасоўшчыне быў блізкі да спынення, аднак будаўнічыя працы аднавіліся. Пляцоўка з некалькімі супер- і гіпермаркетамі рознай спецыялізаванасці была задуманая яшчэ тры гады таму.

**Ягор Марціновіч**

# Чым адрозніваюцца «Джылі» і «Зоці»?

Параўноўваем характарыстыкі **кітайскіх і іранскіх аўто беларускай зборкі.**

На заводзе «Юнісон» у вёсцы Абчак пад Мінскам працягваецца зборка аўтамабіля Zotye Z300. Беларускі клон кітайскага клона японскай «Таёты Эліян» нарэшце пастуліў у продаж — пагэнцыйныя пакупнікі могуць прыглядацца да 60 зробленых машын. Дарэчы, седан C-класа каштуе $14500.

Раней «Юнісон» рабіў іранскія «Саманды», з цягам часу перайменаваныя ў «Сарэн». Сабраныя машыны распрадаюцца дагэтуль, аднак у цэлым гучны праект быў прызнаны правальным. Тады было вырашана пераключыцца на кітайскія «Зоці». У наступным годзе кампанія мае пачаць яшчэ і выпуск аўтамабіляў «Опель Корса».

А яшчэ раней на заводзе пад Барысавам сталі збіраць кітайскі «Джылі».

«Наша Ніва» параўнала асноўныя характарыстыкі ўсіх трох «беларускіх» аўтамабіляў — новай «Зоці», «Саманда», а таксама флагманскай мадэлі «Джылі».

**ЯМ**

| | Саманд Сарэн | Джылі SC7 | Зоці Z300 |
|---|---|---|---|
| Тып кузава | седан | седан | седан |
| Колькасць дзвярэй/месцаў | 4/5 | 4/5 | 4/5 |
| Прывад | пярэдні | пярэдні | пярэдні |
| Каробка перадач | МКП, 5 прыступак | МКП, 5 прыступак | МКП, 5 прыступак |
| Аб'ём рухавіка, см3 | 1587 | 1792 | 1499 |
| Магутнасць | 104 к.с. | 127 к.с | 112 к.с. |
| Паліва | Бензін, AI-95 | Бензін | Бензін, AI-95 |
| Расход у змяшаным цыкле | 6,7 л/ 100 км | 7,5 л/ 100 км | 6,7 л/ 100 км |
| Разгон да 100 км/г | 11,9 с | — | 12,9 с |
| Максімальная хуткасць | 185 км/г | 185 км/г | 172 км/г |
| Змяшчальнасць багажніка | 500 л | 560 л | 457 л |
| Габарыты (даўжыня/шырыня/ вышыня), у мм | 4502 / 1720 / 1460 | 4682 / 1739 / 1485 | 4565 / 1766 / 1486 |
| Аўто, узятае за аснову | Пежо 405 | Таёта Карола | Таёта Эліян |
| Дадатковыя бонусы | | | |
| Кандыцыянер, электрапад'ёмнікі шкла, магнітола з USB-прайгравальнікам, пярэднія супрацьтуманныя фары | | | |
| Цана | **$12 825** | **$12 990** | **$14 500** |




«Саманд».



«Джылі».



«Зоці».

# Падатак на аўто хочуць браць пры тэхаглядзе

Яго памер можа дасягнуць **2,6 мільёна рублёў.**

Праект аб увядзенні пошліны на допуск да ўдзелу ў дарожным руху абрастае новымі падрабязнасцямі.

Як заявіў намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, грошы будуць збірацца падчас праходжання аўтамабілямі тэхнічнага агляду.

У залежнасці ад віду, масы і ўладальніка аўто сума складзе ад 1 да 25 базавых велічыняў. Нагадаем, пакуль што базавая складае 130 тысяч рублёў.

**ЯМ**

## Сцісла

### Сярэдні курс даляра на 2014 год — 9800 рублёў

Такую ацэнку зрабіў Нацбанк. Сярэдні курс сёлета складзе не больш за 8900 рублёў. Такім чынам, дэвальвацыя на наступны год прагназуецца на ўзроўні 10%.

### Адпушчаныя цэны на шэраг прадуктаў

Міністэрства эканомікі зняла абмежаванні па ўзроўні гандлёвых надбавак на фарш з ялавічыны і свініны, мяса курэй і куранят-бройлераў, пельмені, крывяныя і ліверныя каўбасы, мясны хлеб, зельцы і паштэты, некаторыя сыры, соль, салёную рыбу, каву і гарбату.

### Універсам «Брэст» стаў «Рублёўскім»

Крама на Паўднёвым Захадзе Мінска перайшла пад кантроль сеткі яшчэ ў верасні. Тэндэнцыя апошніх гадоў — купля прадуктовымі сеткамі савецкіх універсамаў.

### Прохараў стаў акцыянерам «Уралкалія»

Сулейман Керымаў прадаў яму 21,75% акцый кампаніі. Пакет мог каштаваць $3,5—4,3 мільярда. Прохараў належыць да групы багатыроў, якія зрабілі капітал у 1990-я. Ён таксама ўзначальвае расійскую ліберальную партыю «Грамадзянская платформа» і ўдзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах у Расіі.

**ЯМ**

# Містычная аварыя пад Баранавічамі — як у жахлівым фільме «Пункт прызначэння»



HTTP://WEBFILE.RU

**Студэнтка загінула**, ратуючы памерлага веласіпедыста.

Здарэнне адбылося 15 лістапада на трасе М1 каля гіганцкай фігуры зубра ў Баранавіцкім раёне. Было ўжо цёмна, каля 21.40, калі 60-гадовы мужчына насуперак правілам дарожнага руху пераязджаў трасу на ровары. З гэтага і пачалася трагедыя, якая закранула адразу некалькі сем'яў.

25-гадовы хлопец на «Пежо», які вяртаўся дадому ў Баранавічы, убачыў веласіпедыста ў апошняе імгненне... На трасе дазволеная хуткасць 120 км/г, таму ўдар быў моцны. Хлопец затармазіў і кінуўся ратаваць небараку. Спыніўся і кіроўца «Опеля», які ехаў за ім. Апошні ехаў з жонкай, пяцікурсніцай медуніверсітэта. Дзяўчына таксама пабегла на дапамогу.

Яны прыселі каля мужчыны, які, як высветлілася пазней, тады ўжо быў мёртвым. Тут на іх наехаў «Фальксваген»... Кіроўцу «Пежо» зламала сцягно, а дзяўчыну пяцьдзясят метраў яшчэ працягнула па дарозе, пакуль машына спынілася. У выніку яна загінула. 22-гадовую Аліну вучылі ў медуніверсітэце выратоўваць жыцці іншым...

24-гадовы кіроўца «Фальксвагена» толькі купіў аўто ў Мінску і ехаў з абноўкай дадому ў Кобрын. Ні ён, ні кіроўца «Пежо» за свой чатырохгадовы стаж не мелі ад ДАІ ніводнага штрафу. Але ў стрэсавай сітуацыі разгубіліся і не паспелі выставіць аварыйныя знакі.

Гісторыя на гэтым не скончылася. Калі на месца аварыі з Баранавічаў прыехалі бацькі Аліны, сваю «Аўдзі» яны пакінулі з уключаным запальваннем. У машыне закараціла праводку, і машына загарэлася.

Відавочцам аварыі стаў чалавек, які ў інтэрнэце падпісваецца DocAlex. Ён тлумачыць прычыну здарэння проста. «Там нядаўна адчынілі запраўку, на супрацьлеглым баку ад зубра. Жыхары з навакольных вёсак ідуць туды па выпіўку і прадукты, бо ў аграгарадку Петкавічы няма «начнікоў». Там не патрэбная запраўка, бо з яе шмат гора людзям. Столькі ДТЗ здараецца, што месца трэба проста абнесці плотам з двух бакоў». І падсумаваў: «Веласіпедыст, хутчэй за ўсё, быў п'яны. Бо пазней выявілася, што мужчына моцна піў. І вяртаўся з запраўкі ў Петкавічы».

«Я бачыў тую аварыю, — выказаўся інтэрнэт-карыстальнік anubisjackal1. — Што я вынес з убачанага? У першую чаргу, калі вы сталі відавочцам ДТЗ, спачатку абазначце гэтае месца. Ёсць знакі аварыйнага спынення, спецыяльныя камізэлькі».

У інтэрнэце чытачы паспелі параўнаць гэтае здарэнне з тымі, што ляглі ў аснову жахлівага фільма ў пяці частках «Пункт прызначэння». Настолькі ж неймаверныя, але ўсё-ткі магчымыя гісторыі.

**Кастусь Матушыч**

## Вышук



**Знік 29-гадовы**

**Раман Касенка**, 1984 года, знік 2 кастрычніка ў Брэсце. Прыкметы: рост 180 см, хударлявы, валасы русыя. Быў апрануты: чорная куртка, сінія джынсы. Хто ведае месцазнаходжанне Касенкі, звяртайцеся на: (0162) 23-81-97, (029) 791-47-70.



**Зусім маладая**

17-гадовая **Кацярына Дземчанка** 19 кастрычніка пайшла з дому, і невядома, дзе яна. Прыкметы: рост каля 160 см, твар смуглявы, вочы блакітныя, валасы чорныя, радзімкі на левай шчацэ і справа над губой. Была апранута: чорныя куртка, штаны, чаравікі, пры сабе мела чорную сумку. Можа знаходзіцца ў Маладзечне. Хто ведае пра яе што, звяртайцеся на: (017) 252-02-02, , (029) 392-46-47.

# Вярнуўся з калоніі і не знайшоў свайго дома

Новы гаспадар дазволіў пажыць у сваёй **вясковай хаце**.

Андрэй Смірноў чатыры гады адбываў пакаранне ў калоніі. У снежні 2012 ён выйшаў на волю, але сваёй хаты ў цэнтры Жлобіна не знайшоў — ні родных сцен, ні роднага даху.

Замест драўлянай пабудовы, у якой жылі некалькі пакаленняў адной сям'і, паўстаў навюткі катэдж.

34-гадовы быў асуджаны не раз узіраўся ў свой пашпарт з рэгістрацыяй, параўноўваючы адрас на паперы і на металічнай шыльдзе, прыбітай да плоту. Суседнія дамы былі тыя ж, але родны дом Андрэя, дзе ён нарадзіўся і вырас, магічным чынам знік, як маці-зямля яго праглынула, нарадзіўшы замест хацінкі катэдж-карцінку.

Збянтэжаны малады чалавек нясмела пастукаў у брамку. Выйшаў гаспадар катэджа — мясцовы прадпрымальнік і прапанаваў візіцёру правальваць.

Андрэй пайшоў у міліцыю, паказаў праваахоўным органам свой пашпарт з рэгістрацыяй. Міліцыянты разам з ім паехалі да новага гаспадара. Прадпрымальнік паказаў дакументы на дом, маўляў, памяшканне маё, законна набытае, легальна пабудаванае.

Бізнэсовец зрабіў жэст добрай волі: дазволіў небараку пражыванне ў мясцовым гатэлі за трыццаць дзён. А пасля прапанаваў новае месца жыхарства — у вёсцы Старая Рудня за 35 км ад Жлобіна.

Варта дадаць некалькі слоў перадгісторыі. Андрэй быў сірата, выхоўвала яго бабуля. Жыў ён да «пасадкі» з бабуляй і сужыцелькай у цэнтры райцэнтра. Неяк у спрэчцы ўнук штурхнуў бабулю, якой было ўжо за 80. Старая ўпала, потым памерла. Унука тады пасадзілі — за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Было гэта ў снежні 2008-га. Андрэю далі сем гадоў, але вярнуўся ён праз чатыры гады з дакументам аб умоўна-датэрміновым вызваленні за добрыя паводзіны.

Аказалася, што пакуль Смірноў сядзеў у калоніі, спадчыну атрымала ягоная цётка. Сітуацыя дзіўная, бо першаснае права на дом меў якраз такі ўнук. Калі б суд вырашыў, што той забіў бабулю, прэтэндаваць на спадчыну ён не змог бы. Але за прычыненне цялесных пашкоджанняў дом, паводле закону, у яго забраць не маглі.

Ягоная цётка (пляменніца памерлай бабулі) здолела нават прадаць дом, нягледзячы на зарэгістраванага там чалавека. Па новым Жыллёвым кодэксе гэта не з'яўляецца парушэннем, але сітуацыя адбылася яшчэ да яго прыняцця.

Андрэй Смірноў працягвае жыць у Старой Рудні. На дапамогу былому асуджанаму прыйшоў яго далёкі сваяк. Пятро Паўлавіч звязаўся з юрыстамі і напісаў скаргу ў жлобінскую пракуратуру, якая праводзіць праверку.

**Юлія Шымкевіч**

## Сцісла

### Лукашэнка ўзгадаў

Генеральны пракурор Аляксандр Канюк завёў крымінальную справу супраць свайго намесніка Аляксандра Архіпава. Спачатку Архіпава звольнілі «за здзяйсненне дзеянняў, якія дыскрэдытуюць пракурорскага работніка. А пасля таго, як Лукашэнка выказаўся пра справу намесніка генпракурора, яго ўзялі і арыштавалі. Па словах кіраўніка дзяржавы, Архіпаў спрабаваў замяць справу знаёмага, які п'яным за рулём насмерць збіў чалавека.

### Тройчы судзімы ў шаснаццаць гадоў

Дзевяцікласнік з Гомеля затрыманы за ўгон аўто. Спачатку ён «узяў праехаць» «Фіят», а затым «ВАЗ». Калі італьянскае аўто знайшлі адразу ж недалёка ад месца ўгону, то расійскае — толькі праз некалькі дзён. А на ўгоншчыка выйшлі выпадкова: міліцыянты спынілі хлопца, які нёс каністру. Пры сабе ў яго аказалася і крадзеная магнітола. Падлетак прызнаўся ва ўгонах. Вядома, што ў свае 16 гадоў ён тройчы судзімы за крадзяжы.

### Знайшлі засмактаным у бітум

47-гадовага жыхара Петрыкаўскага раёна шукалі амаль два тыдні. 31 кастрычніка ён не прыйшоў з працы — жонка забіла трывогу. Знайшлі яго нежывым у рэзервуары з бітумам. Як высветлілася, ён ішоў па тэрыторыі гандлёвай базы Петрыкаўскага райспажывтаварыства ў вёсцы Муляраўцы, дый зваліўся ў двухметровы рэзервуар.

### Бралі хабар мабільнікамі

Супрацоўнікі падатковай інспекцыі па Мінскім раёне абвінавачваюцца ў атрыманні хабару. За дарагія мабільнікі яны вызвалялі ад адказнасці за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

**КМ**

# Клінковы сыр у Літве пад абаронай

Алесь Белы: «Усё цікавае **зарэгіструюць суседзі**».



Тварожны сыр стаў трэцяю літоўскай стравай, унесенай Еўракамісіяй у рэгістр ахоўваных прадуктаў мясцовага паходжання. Аднак літоўскі тварожны сыр у Беларусі добра вядомы пад назвай «клінковы» і лічыцца нацыянальнай стравай.

Ці паўплывае рашэнне Еўракамісіі на беларускі клінковы сыр і ці ёсць нейкая пагроза для будучыні прадукту? На гэтае пытанне адказвае гісторык, аўтар і ўкладальнік кнігі «Наша страва» **Алесь Белы**.

«Рашэнне Еўракамісіі паказвае, наколькі больш канцэптуальна развіты рынак харчовых прадуктаў Літвы, што яны на некалькі крокаў наперадзе за Беларусь.

Лёсы клінковага сыру ў Беларусі і тварожнага сыру ў Літве вельмі падобныя. Літоўскі сыр таксама перажыў занепад, змяншэнне папулярнасці. Аднак літоўцы, у адрозненне ад беларусаў, спрабуюць канцэптуалізаваць тавар, вывесці яго на еўрапейскія рынкі.

**«НН»: Унясенне нейкага прадукту ў спіс ахоўных не азначае забарону вырабу аналагічных прадуктаў у іншых месцах: напрыклад, сыр пармезан выракляюць не толькі ў Парме, але па ўсёй Італіі і ўсім свеце, хоць ён мае іншую назву. Ці можа Беларусь у будучыні зарэгістраваць клінковы сыр у якасці свайго нацыянальнага прадукту?**

**АБ:** Праблема ў тым, што ў Беларусі ніхто гэтым не займаецца. У падобнай сітуацыі мусяць узаемадзейнічаць розныя бакі.

Вытворцы, мусяць раскручваць прадукт, ствараць сапраўдны і якасны брэнд, у якога будзе прыгожы пакунак, якасць якога будзе стабільна высокай, каб і мясцовыя жыхары, і турысты ведалі, што гэты прадукт — мясцовая, нацыянальная цікавостка. Тут вялікая зацікаўленасць вытворцаў, бо адметнасць прадукту павышае яго дададзеную вартасць.

У той жа час дзяржава мусіць займацца юрыдычнымі працэдурамі. Патрэбна спачатку фіксаваць адметнасць прадукту на нацыянальным узроўні. Затым трэба выходзіць на міжнародны ўзровень, ініцыяваць рэгістрацыю адметных прадуктаў у Мытным саюзе, членам якога з'яўляецца Беларусь.

Але нашыя чыноўнікі не разумеюць значнасць такой працы. Бо гэтая праблема не ўваходзіць у шэраг вострых, а вынікі можна будзе заўважыць толькі ў доўгатэрміновай перспектыве. Таму гадоў праз пяць Беларусь рызыкуе застацца без кулінарнай адметнасці — усё цікавае зарэгіструюць суседзі. А нацыянальная кухня ёсць адным з каналаў трансляцыі культурнай спадчыны.

Кірыла Хілько



**Фотафакт**

**У Зелянкоўскай і Міхалка нарадзіўся сын**

Яго назвалі Макарам. Пра гэта паведамляецца на афіцыйным сайце гурту. «Вага — 3,3 кг, рост — 53 см. Мама і немаўля адчуваюць сябе добра. Нашы віншаванні, ура!» — гаворыцца ў допісе.

Сяргей Міхалок — вядомы рок-музыкант, лідар гурту «Ляпіс Трубяцкі». Святлана Зелянкоўская — актрыса, працуе ў Купалаўскім тэатры.

І для Зелянкоўскай, і для Міхалка — гэта не першае дзіця. У Святланы ёсць дачка ад першага шлюбу, а ў Міхалка 18-гадовы сын.

# БПЦ прапануе зрабіць Дзень Хрышчэння Русі выхадным

Сьвяты Сінод БПЦ вырашыў накіраваць Аляксандру Лукашэнку пісьмо з просьбай аб наданні Дню Хрышчэння Русі (28 ліпеня) статусу дзяржаўнага свята і па магчымасці зрабіць яго выхадным. Аб гэтым паведамілі ў Беларускім экзархаце.

Епіскапы прынялі такое рашэнне, заслухаўшы даклад мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, у якім ён падвёў вынікі святкавання 1025-годдзя Хрышчэння Русі.

У прыватнасці, мітрапаліт нагадаў, што вечарам 28 ліпеня 2013 года пачаўся гістарычны візіт у Мінск прадстаяцеляў і прадстаўнікоў памесных праваслаўных цэркваў з усяго свету. Яны адслужылі літургію 29 ліпеня на мінскім Замчышчы. У Мінск была дастаўлена і агульнахрысціянская святыня — Крыж апостала Андрэя Першазванага.

Лявон Максюта



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Людзі і рэчы

Ледзь не кожны дзень у пад'ездзе дома, дзе жыву, раскідваецца процьма паперак з прапановамі разнастайных паслуг і лёгкіх заробкаў.

Нядаўна я падняў з падлогі чарговую паперку, з якой кідаўся ў вочы самаўпэўнены выклік малазразумеламу часу: «КУПЛЮ ДОРАГА» .

А што, падумаў я, чаму ж не прадаць «старыя савецкія значкі... граматы... графіны і талеркі... фарфоравыя фігуркі і статуэткі СССР... падшклянкі... падсвечнікі... партабакі...»? Грошай да пенсіі амаль не засталося, а тых самых значкоў... Мо ўпершыню я пашкадаваў, што няма і ніколі не было ў нашай сям'і бюстаў Леніна і Сталіна, бо нехта таксама купіў бы іх ДОРАГА... А танна я і не прадаў бы...

Але ж колькі каштуе СССР?

Я адчыніў шуфлядку пісьмовага стала і дастаў стары бацькаў партабак. Цікава, колькі дасць пакупнік за кавалак дзюраліміню? Што праўда, не зусім кавалак, бо на фотаздымку пад зжаўцелым цьмяным плексігласам — мама і я. Мне тры гады, я моцна абхапіў маму за шыю. І вось зараз яна таксама быццам пытаецца ў мяне: «Ну, і якую ж ты прызначыш цану?»

Я не ведаю, што адказаць. Бо, вядома, трэба спачатку добра і дакладна ўсё падлічыць: і колькі мама сэканоміла грошай, калі, цяжарная мной, цягнулася з Мінска ў чэрвені 41-га пешшу да Магілёва; і колькі каштавала ёй зрабіць партабак на казанскім заводзе, дзе выраблялісся самалёты; і ў якія выдаткі абышлася адпраўка партабака ад майго імя бацьку на фронт... Няблага было б з агульных выдаткаў на палявую пошту вылічыць кошт ліста, у якім бацька напісаў мне ў падзяку за падарунак невялічкі вершык: «Есть у папы портсигар. В нем махорочный товар. Смотрит с крышки прямо Сережа и мама»... І ўвогуле, без падліку таго, колькі грошай каштаваў шматмесячны пошук бацькамі адзін аднаго, сённяшнюю цану партабака вызначыць наўпрост немагчыма.

Затое я дакладна ведаю, колькі каштуе сёння раяль — 1 мільярд рублёў, альбо 100 тысячаў даляраў.

Менавіта за такія грошы збіраецца купляць раяль Галоўнае гаспадарчае кіраўніцтва Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, пра

**Колькі ж каштуе СССР?**



што са спасылкай на сайт дзяржзакупак паведамляе ўсюдыісны інтэрнэт. І як вы думаеце, дзе размесціцца гэты музычны цуд? Правільна, у Мінску ўжо з'явіўся палац з мармуру, бронзы і пазалоты, якому гэткі раяль добра пасуе...

Што ж да майго сціплага, пашкрабанага падчас вандровак з кватэры на кватэру раяля, то шкада, канечне, што пакупнік савецкіх значкоў і партабакаў на яго не замахваецца. А то, глядзі, старгаваліся б. І тых 100 тысячаў даляраў хапіла б на ўсё жыццё, што засталося, каб падлічыць кошт партабака з дзюралю.

Шкада не шкада, але з гэтым раялем трэба нешта рабіць, бо ён са сваіх ста з нечым гадоў паўстагоддзя маўчыць. Так, калі-ніколі выверзе з сябе нешта хрыплаватае...

Аднойчы, праўда, ужо быў пакупнік і цану прапанаваў неблагую. Не 100 тысяч даляраў, але ж...

Але ж у апошні момант нешта зварухнулася, і я вырашыў, што цана ўсё ж не тая. Не тое, каб малая, але не дакладная. Бо дакладная цана павінна складацца з кошту матчынай маёмасці, якая дашчэнту згарэла разам з домам падчас першай бамбёжкі і замест якой быў атрыманы пасля вяртання ў 1944 годзе ў Мінск пашкоджаны кабінетны раяль. Але хто ведае той кошт? Нават тады ніхто не ведаў. Прывялі ў нейкі пакгаўз, куды звальваліся розныя рэчы, што засталіся ад немцаў, выбірайце... Магла, вядома, выбраць і нешта менш груваскае, напрыклад, нейкую карціну ці сабе паліто. А выйшла так, што ў паўразваленай кватэры, куды паступова збіраліся ацалелыя сваякі, раяль уладкаваўся ці не на ўвесь пакойчык. Як добра было мне пад ім жыць! А калі яшчэ прыладзілі педалі, а я прыладзіў да іх круглае крэсельца, што круцілася нібыта руль...

А, кіну настальгічныя дзіцячыя ўспаміны. Тут іншы клопат: як адлічыць ад 100 тысячаў даляраў грошы, што былі змарнаваны на выхаванне з мяне «Рахманіна», як пра тое марыла баба Гіта? Маці, вядома, у сваіх марах такіх вышынь не дасягала. Але небеспадстаўна лічыла, што даражэй за музыку ў мірным жыцці нічога няма і не будзе...

Пакуль цягнуўся гэты ўяўны гандаль з пакупніком СССР, я ўсё думаў, думаў і надумаў: не людзі валодаюць рэчамі, як тое ім падаецца, а рэчы ўладараць над людзьмі.

Думка, вядома, не новая, але кожны разумее яе па-свойму.

Вось як разумела яе баба Гіта, калі разам з дачкой і ўнучкамі сыходзіла з мінскага пекла, таксама пешшу: нічога не ўзяла з сабой, акрамя касцюма малодшага сына. Старэйшага забіў у 1938-м Сталін. А тут вось малодшы наважыўся змагацца з Гітлерам — хто каго...

Які то быў цудоўны касцюм з шэрага бастону, пэўны час адзіны ў бацькі, калі ён вярнуўся з вайны. Жывы. Нават не паранены.

Толькі вось баба Гіта пачала размаўляць сама з сабой. Усё размаўляла, размаўляла, а я нічога не разумеў...

Ну, а пілотка, гімнасцёрка і кабура засталіся мне. І я доўга яшчэ хадзіў на вайну з Гітлерам. З-пад раяля...

Пакупнік СССР, дарэчы, купляе і гімнасцёркі... Дорага.

Мо хто і прадасць.

# У Мінску з'явіўся жорсткі скуралуп

Дзясяткі жывёлін засталіся **скалечанымі**.

Каты без лапаў і хвастоў, з адрэзанымі вушамі, выкалатымі вачыма. Такія жахі жыхары сталіцы назіраюць ужо больш за месяц. Пакалечаныя жывёліны з'яўляюцца то ў адным, то ў іншым раёне горада. Валанцёры арганізацый па абароне жывёлаў спрабуюць выйсці на след скуралупа альбо нават цэлай групы. Пакуль безвынікова. А адзін з валанцёраў гатовы нават ахвяраваць тысячу даляраў за інфармацыю пра вычварэнца. Каб падзяліцца звесткамі, можна напісаць на мэйл: liquid.heaven@gmail.com.

Валанцёры адлоўліваюць тых, хто трапіў пад руку ці дакладней нож скуралупа. Адным аказваюць ветэрынарную дапамогу, іншых усыпляюць — часам выжыць з такімі страшнымі траўмамі гадаванцы проста не здольныя. А кагосьці проста немагчыма злавіць: праз стрэс яны не ідуць у рукі да чалавека і паміраюць ад ранаў. Калі адразу гаварылі пра тое, што скуралуп здзекуецца толькі з катоў, то днямі мінчукі знайшлі знявечанага сабаку: з абсечанымі лапамі, злупленай скурай, успоратым жыватом. Сустракаюцца выпадкі, калі жывёлаў на вуліцах забіваюць з пнеўматычнай зброі ці атручваюць хімікатамі.

Вычварэнствы дзікія. Псіхолагі загаварылі пра тое, што гэты чалавек душэўна хворы. А калі яго не спыніць, можа перанесці сваё здзекі і на людзей.

Валанцёры падалі ў пракуратуру ўжо некалькі заяваў — просяць знайсці вылюдка. Праўда, калі яго і зловяць, то пакаранне будзе не надта суровым — адміністрацыйны арышт альбо штраф у 30 базавых (3,9 мільёна рублёў). Хіба што ён трапіць яшчэ ў міліцэйскую базу.

Абаронцы жывёлаў ужо не першы год просяць прыняць больш суровае заканадаўства за жорсткае абыходжанне са сваімі гадаванцамі. Яны мяркуюць, што тады людзі стануць больш адказнымі.

**Сяргей Макарэвіч**



Гэты кот застаўся жывым, хоць і без хваста.

**Адрэзаў дзюбы бакланам**

Летам 2012 на возеры Лукомльскае ў Чашніцкім раёне былі знойдзены дзясяткі птушанят бакланаў з адрэзанымі наддзюбамі. Як высветлілася, дзясяткі птушак пакалечыў работнік мясцовага рыбгаса. Птушанят давялося ўсыпіць, каб яны не паміралі ў пакутах. Мужчыну далі штраф у 2,5 мільёна за жорсткае абыходжанне з птушкамі, а яшчэ 20 мільёнаў 760 тысяч выставіла інспекцыя прыродных рэсурсаў. Свой учынак мужчына патлумачыў тым, што чуў пра птушак як непажаданы від. Думаў абмяняць адрэзаныя дзюбы на грошы.

# Таямнічы «Бэнтлі» беларускага пасольства

Аўто можа належаць **расійскаму мільярдэру**.

Напрыканцы мінулага тыдня ў інтэрнэце з'явіліся фотаздымкі аўтамабіля «Бэнтлі», які трапіў у аб'ектыў маскоўскага блогера. Дарагім аўто ў Маскве нікога не здзівіш, аднак сенсацыяй сталі дыпламатычныя нумары, паводле якіх аўто належыць беларускаму пасольству. Да таго ж беларускія нумары мае і іншы аўтамабіль — «Паршэ Каен».

Маскоўскія блогеры адразу ўзгадалі пра гісторыю, што адбылася паўгода таму: у маі ў гандлі дыпламатычнымі нумарамі было западозрана пасольства Малдовы. Да таго ж у базе аўтамабільных нумароў амбасады Беларусі «Бэнтлі» няма.

На пытанне агенцтва БелаПАН прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных адказаў, што гэтыя аўтамабілі належаць ганаровым консулам Беларусі і купленыя за ўласны кошт самімі консуламі.

Хто такія ганаровыя консулы?

Спадар Савіных патлумачыў, што статусам ганаровага консула са згоды дзяржавы, якая яго прымае, надзяляюцца аўтарытэтныя грамадзяне краіны знаходжання, якія аказваюць важнае садзейнічанне ў развіцці двухбаковых сувязяў.

«Дзейнасць ганаровых консулаў можа быць вельмі разнастайнай. Так, зусім нядаўна ганаровы консул Беларусі на Філіпінах актыўна займаўся высвятленнем сітуацыі з беларускімі грамадзянамі пасля разбуральнага тайфуна», — падкрэсліў Савіных.

Беларусь мае болей за 20 ганаровых консулаў у розных краінах, у Расіі іх аж чатыры. Гэта Алег Невяркевіч са Шклова, які зараз загадвае санаторыем «Белая Русь» у Туапсэ, старшыня нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Кубані». Расійскі мільярдэр Ігар Макараў, уладальнік сеткі кампаній «Ітэра», дарэчы, адзіны з консулаў, хто жыве ў Маскве. Дэпутат Мурманскай думы Аляксандр Крупадзёраў, сябра «Адзінай Расіі». А таксама старшыня холдынгавай кампаніі «Ганддёвы дом «Мангазея», член Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Шугля з Цюмені.

Самі прадстаўнікі беларускага пасольства карыстаюцца больш сціплымі аўтамабілямі — у парку пасольства лічацца тры «Мерсэдэсы», пара «Фальксвагенаў», «Нісан» і некалькі «Таётаў».

**Юрась Ускоў**




**Фотафакт**



**Павел Севярынец і Вольга Шылак заручыліся, неўзабаве вяселле**

«На выхадных з'ездзілі да бацькоў дзяўчыны ў мястэчка Нарач. Яны далі згоду. Калі будзе вяселле? Сёлета наўрад ці паспеем, бо пачынаецца хутка пост. Таму ўжо налета», — кажа лідар Хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец.

# «Прасці нас, гасудар» пад Івацэвічамі

Ля вёскі Бялавічы паставілі крыжы **ў гонар расійскіх цароў**.

На тым тыдні ля вёскі Бялавічы з'явіліся два вялікія, больш за тры метры вышынёю, драўляныя крыжы. Абурэнне мясцовых жыхароў выклікалі надпісы на крыжах: «Святая Русь», «Вера, царь и отечество», «Прости нас, государь» і «1613–2013». У 1613 годзе на расійскі прастол узышоў першы прадстаўнік дынастыі Раманавых Міхаіл І.

Паведамлялася, што крыжы самавольна ўсталяваў жыхар Белаазёрска, выходзец з Бялавіч. Калі гісторыя трапіла ў СМІ, Івацэвіцкі райвыканкам запэўніў, што праводзіцца разбіральніцтва і неўзабаве крыжы прыбяруць.

Аднак пакуль крыжы стаяць на сваім месцы. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Івацэвіцкага райвыканкама Аляксандр Грыцук. Варта заўважыць, што да званка журналіста «НН» Грыцук не ведаў пра існаванне крыжоў. «Хай бы божа храніў гэтага цара, каму ён перашкаджае?» — адказаў ён на пытанне пра крыжы з ухваленнем расійскіх цароў.

Пасля Грыцук усё ж пацвердзіў, што крыжы сапраўды ёсць у Бялавічах. Прыбіраць іх райвыканкам, аднак, не адважваўся. «Вось вы б сталі пілаваць крыжы? Праваслаўны, не праваслаўны — усё адно, сталі б? Будуць ахвотныя, дам пілу, пад'ёмнік — калі ласка, няхай прыбіраюць», — сказаў ён.

**Яўген Крэйда**

# «Гарачая вада двойчы на тыдзень — гэта нармальна!»

У Бешанковічах **восеннюю ваду не грэюць**, бо гэта задорага.

У газету звярнуліся жыхары мястэчка Бешанковічы Аляксандра Звездзянкова і Уладзімір Рамановіч, незадаволеныя якасцю камунальных паслуг.

« У Бешанковічах гарачую ваду даюць у найлепшым выпадку адзін раз на тыдзень», — абураюцца яны. І гэта на цэнтральнай вуліцы!

«А ўвечары 13 лістапада без усякага папярэджання адключылі не толькі гарачую ваду, але яшчэ і ацяпленне. На вуліцы мінусавая тэмпература і ідзе снег, кватэра паступова астывае... Патэлефанавалі ў кацельню а 22-й. Дзяжурная кажа, што яна прыняла змену а восьмай вечара, інфармацыі аб збоях або рамонце ў яе няма. Пасля падышоў аператар кацельні, ён выказаў здагадку, што прычынай паломкі маглі быць мокрыя трэскі (катлы паляць шчэпай), якія ляжалі на вуліцы.

На жаль, гэта не першы такі выпадак. Наша сям'я пераехала ў Бешанковічы два гады таму, і столькі ж ходзім і спрабуем дабіцца хоць нейкага вырашэння праблемы. Камунальныя плацяжы плацім у тэрмін, але часам даходзіць да такога, што нават дзіця немагчыма выкупаць», — журацца яны.

Дырэктар прадпрыемства «Бешанковіцкі камунальнік» Ігар Співец лічыць, што такая сітуацыя цалкам нармальная для мястэчка.

**Людзі, якія пераехалі з вялікіх гарадоў, не разумеюць асаблівасцяў нашай сістэмы ацяплення**

«Людзі, якія пераехалі з вялікіх гарадоў, не разумеюць асаблівасцяў нашай сістэмы ацяплення. Напрыклад, у Мінску цэпланосьбіт для падагрэву вады і для падагрэву радыятараў падаецца па асобных сістэмах. У нас сістэма агульная, адна для ўсяго.

Таму ў летні перыяд кацельню, паводле нарматываў, паляць два разы на тыдзень і два разы на тыдзень у дамах ёсць гарачая вада. У ацяпляльны сезон гарачая вада ёсць пастаянна. Але ў міжсезонны час, як цяпер, калі на вуліцы дастаткова цёпла, мы не можам грэць ваду, бо тады б неслі вялікія матэрыяльныя страты», — патлумачыў ён.

Дырэктар таксама заклікаў жыхароў карыстацца бешанковіцкай грамадскай лазняй з мужчынскім і жаночым аддзяленнем, дзе гарачая вада ёсць увесь час.

**Кірыла Хілько**

**P.S. Батарэі пацяплелі!**

Аляксандра Звездзянкова паведаміла, што «батарэі сталі нарэшце гарачымі, вада таксама пайшла прымальнай тэмпературы». Аказалася, што рашэнне аб уключэнні ацяплення і падагрэве вады прымае спецыяльная камісія з Віцебска, а да паступлення загадаў сістэма працуе ў рэжыме працеплівання».

# «На свінаферме нават няма нармальных варотаў»

Вяскоўцам загадалі знішчыць сваіх свіней, **каб не пазаражалі дзяржаўных**.

У рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуліся з лістом жыхары вёскі Вялікі Бокаў Мазырскага раёна.

Яны як і дзясяткі тысяч іншых вяскоўцаў, пацярпелі ад чумы свіней. Вяскоўцам без ніякага разбору загадалі знішчыць усіх свіней, каб утварыць буферную зону вакол мясцовай дзяржфермы.

«Да вас звяртаюцца жыхары вёскі Вялікі Бокаў. Мазырскім райвыканкамам прынята рашэнне аб увядзенні буфернай зоны вакол свінафермы ў вёсцы Козенкі. У буферную зону ўключаны вёскі: Козенкі, Барыскавічы, Вялікі Бокаў, пасёлак Сасновы. У ліпеньскай пастанове Мінсельгасхарча № 30 пазначана, што за 5 км ад комплекса — не фермы, а менавіта комплекса — забаронена ўтрыманне свіней як фізічнымі асобамі, так і фермерскімі гаспадаркамі.

Мы разумеем, што на комплексах сканцэнтраваная вялікая частка пагалоўя і там створаныя адмысловыя меры бяспекі. Але ўтрыманне Козенской свінафермы не падлягае ніякай крытыцы. Там нават нармальных варотаў і плоту не існуе, не кажучы ўжо пра ўмовы працы свінарак і магчымасці выконваць хоць нейкія прафілактычныя мерапрыемствы па недапушчэнні распаўсюджвання эпідэміі афрыканскай чумы свіней.

Там дагэтуль выкідаюць за плот здохлых свіней, мяса і косткі, якія вясковыя сабакі расцягваюць па ўсім наваколлі.

Насельніцтвам неаднаразова ўздымалася гэтае пытанне, але воз і цяпер там. У нас пра дабрабыт народу кажуць толькі ў СМІ, добра хоць лозунгаў ужо не развешваюць.

Чаму зноў інтарэсы простага народу не прынятыя да ўвагі? Чаму катэгарычна агавораныя тэрміны знішчэння свіней? Чаму не даць людзям пры бязвыбітных утрыманні свіней, пры выкарыстанні кармоў нашай вытворчасці падкарміць да вясны парасят? Дарослых свіней людзі са спакойным сумленнем здадуць на мясаперапрацоўчыя камбінаты або перапрацуюць для сябе. А як быць з супароснымі свінкамі? Няўжо дзяржава, што так «дбае» аб дабрабыце народу, не магла б абавязаць буйныя свінакомплексы ствараць каранцінныя аддзяленні і пасля пэўных даследаванняў прымаць ад насельніцтва па прымальных цэнах гэтых свінак?

На Гомельшчыне не было зарэгістравана ніводнага выпадку афрыканскай чумы свіней, роўна як і ў Мазырскім раёне. Дык навошта ж без нажа рэзаць людзей? Ці мясцовай уладзе захацелася яшчэ больш падтрымаць саўгас-камбінат «Зара»? Мы думаем, што ўлада не есць мяса, якое выгінаецца падчас смажання на патэльні ад вялікай колькасці кармавых дражджэй».

**Г.М. Гурын, Вялікі Бокаў (Мазырскі раён)**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Язэпава неба згадваем

### З краіны сноў

На ціхай кропцы матухны-зямлі
Мы тут з натхнення вобраз волі злепім.
Мы да цябе з краіны сноў прыйшлі —
Пагаманіць каля цябе, Язэпе…

Тут нас сёння толькі каля двух дзясяткаў чалавек. 18-тая — жыхарка Ліпляняў Аліна Станіславаўна Тышко. 19-ты — Кастусь Шыталь. Прыкаціў сюды праз Пунькі на роверы. Ён, Язэпе, паклаў двухколага скакуна ў падножжы магільнай гары і пабег да тваёго некранальнага прытулку.

А мы пасля ціхага мітынгу спусціліся з горкі вечнага спакою. Мы едзем да сядзібы Мар'яна Місевіча, каб прадоўжыць сустрэчу з гаману...

### Неба глядзець

Спадарыня Ада са сваімі вернымі памочнікамі хвалюецца, чаму няма большасці пленэраўцаў. «У аднаго вядомага мастака сур'ёзная прычына. А іншыя што? Праігнаравалі?» — разважае яна.

Язэп, вядома, не пакрыўдзіўся. І сустрэча ягоных паслядоўнікаў адбылася. Летуценны касмічны беларус звёў нас для нейкіх адкрыццяў, мар. Вось я знайшла думкавы вынік гэтага дня. Згадваю словы Ады Эльеўны: «Давайце паставім мэту выкласці ля магілы Язэпа Драздовіча камяні з надпісамі тых яго шукальнікаў, якіх няма ўжо на свеце». Яна пералічвала імёны.

...На сядзібе я пазнаёмілася з ласкавым, усмешлівым Генікам Лойкам, які з думкамі пра Язэпа адлюстраваў вобраз юнага шукальніка, у якім нараджаецца касмічная цяга, здзіўленне глыбінным небам, здагадка... Гэта гіпсавая скульптура хлопчыка з назвай «Ад неба — зямлі».

У зямлі моцная прыцягальная сіла. Проста так не адарваецца ад яе, не ўзляцець целу — вунь як хлопчыкава фігурка прыземлена. Але не менш прыцягальная нябесная сіла, якая ўздзейнічае на чалавечую дапытлівую душу, на думку, мару. Задае пытанне. Нараджае захапленне. Да такой ступені, да якой паказаў скульптар у хлопчыку, які бег і, відаць, прысеў ад здзіўлення. І ўжо правай рукой нешта піша... Зорная выява кінулася ў вочы. Жаданне спасцігнуць нябесны цуд напружыла і засярodзіла ўсё цела. Яно сабралася, згуртавалася ад уражання. Вочы лятуць увысь, прагнуць разгадкі. Яны ў захапленні. Пайшло ад неба святло да зямлі. Дарунак! Толькі не лянуй, чалавек, вачэй і думкі, душы сваёй. Аб'ядняйцеся, хлопчыкі-Язэпы — неба глядзець! Неба над вамі — цудам.

Так я разгадала скульптурнага хлопчыка. Можа, хто па-іншаму? Хай скажа! Бо ўсім спадабаўся твор Лойкі.

### Абяцаў вярнуцца

Услед палатно разгарнула Святлана Баранкоўская. Карціна названа: «Ён абяцаў вярнуцца».

Нехта спытаў: «А што гэта значыць?» Святлана кажа: «Проста распрануўся, павесіў тут сваё паліто і пайшоў. Гэта значыць, што ён прыйдзе».

І вярнуўся Язэп у свядомасць роднай, годнай Беларусі. Знайшоўся. Бо знайшоўся і першы, хто ўсклікнуў: «...А Язэп?... Ён жа наш. І гэта ўнікальна!»

### На радзімным полі

Ну, што зробіш, калі агортвае сум? Ці стомленасць, ці гаркота ад зямнога светабачання?

Мастакоў прыехала ўсяго чацвёра. Астатнія разнатворцы. З незалежнага друку, з літаратурна-журналісцкай глыбоцкай братнечы, фотапаляўнічыя... І нават аўтамайстар, турыст — Васіль Хацкевіч (сябар Алеся Саўчанкі). Лепельцы.

Падсвільчанка Люба Ягораўна Карчэўская, прыбраўшы напярэдадні месца вечнага спачыну славутага земляка, раніцай наступнага дня спякла пірог — пачастунак для ўдзельнікаў юбілейнага свята і ўручыла Адзе Эльеўне. Яе сюды зноў прывёз муж Часлаў Карчэўскі. І ўнучку — двухгадовую Арынку. На месца ўшанавання Язэпа. Паслухаць прамаўленні. Затым прыбраць магілы сваякоў перад святам Пакровам.

«Сем чалавек мясцовых вяскоўцаў чакалі і не дачакаліся, — кажа Ягораўна, — не ведалі, калі ўсё пачнецца».

Значыць, памяць пра Язэпа яшчэ не толькі ў кнігах, у мастацкім асяродку, але і на радзімным полі. Яшчэ ёсць людзі ў вёсцы. А ў хаце Мар'яна прагледзелі фільм пра пашуковыя дзеянні даследчыкаў творчасці мастака, пра яго юбілейныя дні ў нашых мясцінах. Адбыліся дыялогі карэспандэнтаў з мастакамі і гападаром сядзібы. Спадар Мар'ян падрыхтаваў да юбілейнага дня выставу тых малюнкаў, якія падаравалі яму ліпеньскія пленэраўцы. Тут я трапіла ў адкрыццё мастака Часлава Шамшура. Заўважыла, што побач гарталі і разглядалі альбом партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. У Мар'яна ёсць ужо што паглядзець. І Алесь з Васілём перафатаграфавалі сёетое касмічнае Язэпа Драздовіча з альбомнай кнігі, якую набыў гаспадар хаты.

Абдавала раднамоўнае паветра. А на двары і па шляху жоўты, вельмі шчодры сёлета на фарбы кастрычнік, мілаваў вочы. І здавалася:

Дух развіднеў. Унебеліся крозы,
Як воблакі над шолахам бярозаў.

**Марыя Баравік, Падсвілле (Глыбоцкі раён)**

# Эніа Марыконэ: **Беларусь мне нагадала ГДР, тут цяжка дыхаць**

**Шэсць дзён з чалавекам-міфам**, чалавекам-аркестрам і проста чалавекам Эніа Марыконэ.

### «Гэта бярозы?»

Мы прыязджаем у аэрапорт а дзясятай раніцы. Я мушу сустракаць самога кампазітара, яго жонку, сына і менеджара, акрамя таго, дамовіцца з грузчыкамі, каб тыя аднеслі іх валізы да машыны. У валізах ноты, а дакладней партытуры да канцэрту, які Маэстра будзе даваць разам з Прэзідэнцкім аркестрам і хорам Белтэлерадыёкампаніі.

Чую крокі, бачу бабулю, якая падымаецца па прыступках. «Звычайная беларуская бабуля», — думаю я і, не павітаўшыся, чакаю ўбачыць знаёмага чалавека ў акулярах. Бабуля працягвае мне руку: «Buongiorno!» — і за ёй выплываюць двое мужчын і дзядуля, які ніяк не рэагуе на маё вітанне. Я праводжу іх на канапу і тлумачу, што трэба пачакаць, пакуль мытня праверыць багаж, а памежнікі — пашпарты. Стары глядзіць на мяне сувора, як ксёндз на грэшніка, ён разваліўся на канапе і перапытвае ў жонкі, што я сказала. Спачатку я пераймаюся з-за сваёй італьянскай, пасля проста разумею, што дзеду 85 і ён, мякка кажучы, глухаваты. Пасля ўсіх кантроляў і аглядаў мы выходзім з нашага аэрапорта-лабірынта і сядаем у чорны мэрс.

Дзядуля Эніа падаецца нешматслоўным, незадаволеным і вельмі стомленым. Па дарозе з аэрапорта ён упершыню звяртаецца да мяне. «Гэта бярозы?» — пытае ён, назіраючы за пейзажам. Калі беразняк заканчваецца і пачынаюцца прыгарадныя будынкі, ён заплюшчвае вочы і засынае.




**Эніа Марыконэ**

Сусветна вядомы кампазітар, дырыжор, аўтар саўндтрэкаў да фільмаў Серджыа Леонэ, П'ера Паола Пазаліні, Бернарда Берталучы, Рамана Паланскі, Квенціна Таранціна і шматлікіх іншых рэжысёраў, афіцэр ордэна «За заслугі перад Італьянскай Рэспублікай», уладальнік «Оскараў» і «Грэмі», доўгажыхар, бацька чатырох дзяцей і Чалавек свету.

### «Мы ўсе паедзем адсюль нахер!»

На наступны дзень прачынаюся а шостай раніцы, каб своечасова прыйсці да гатэля, адкуль мы рулім у Палац Рэспублікі. Выязджаем па раскладзе а 8:00. Ужо 7:59, лобі пустуе, я маральна рыхтуюся. Стрэлка гадзінніка перамяшчаецца на 8:00, адкрываюцца дзверы ліфта, і Маэстра сустракае мяне ўсмешкай і даволі дзіўным пытаннем: «А колькі ты важыш?». — «45». — «У нас ёсць міндаль, там шмат жалеза і калорый, частуйся», — і яго жонка прапаноўвае мне жменю арэхаў. Калі мы пад'язджаем да Палаца Рэспублікі, яны пытаюцца ў мяне пра стратэгічнае значэнне будынка і ласкава называюць яго «маўзалеем». Аказваецца, гэта не наша прыдумка, а агульнае ўражанне.

Аркестр сустракае дзядулю спачатку цішынёй, пасля скрыпачы пачынаюць грукаць смычкамі па пюпітрах: гэта ў іх замест апладысментаў. Маэстра і я сядаем перад аркестрам і слухаем рэпетыцыю, якую праводзіць памочнік Эніа маэстра Андзэльма, жвавы дзядок з усмешкай да вушэй і незвычайна добрымі вачыма. На першай кампазіцыі высвятляецца, што часткі музыкантаў няма, інструментаў не хапае. Эніа падскоквае з крэсла і пачынае лаяцца. «Мы ўсе паедзем адсюль нахер, калі заўтра не будзе ўсіх інструментаў!» — што я ў лагоднай форме перакладаю кіраўніку аркестра. Высвятляецца, што наш Прэзідэнцкі аркестр — гэта маленькі аркестрык, і для таго каб выканаць патрабаванні італьянцаў, яны запрасілі дадатковых музыкантаў з тэатраў. Насамрэч, ён «проста хацеў паказаць, што варты пашаны» — я падслухоўваю гэта ў машыне, калі адводжу яго на абед.

На абедзе мы сядаем на тыя ж крэслы, у аркестры папаўненне — некалькі перкусіяністаў і два кантрабасісты. Маэстра спакайнее. Рэпетыцыя працягваецца. Першыя скрыпкі глядзяць на мяне і ўсміхаюцца: здаецца, дзядуля заснуў. Пасля я заўважаю, што ён проста заплюшчыў вочы і ўважліва слухае аркестр.

### «Я малады, я раблю зарадку»

На наступны дзень сітуацыя з аркестрам паляпшаецца: прысутнічаюць усе музыканты, памылак не робяць. Дзядуля Эніа пачынае ўсміхацца і дорыць скрыпачцы кветкі «за прагрэс». Аркестр перастае яго баяцца, на перапынку падыходзяць да зоркі з пытаннямі кшталту «ці можна на сто пяцьдзясят другім такце змяніць драўляныя палачкі на мяккія».

Каб трохі адпачыць і павесяліцца, ён расказвае мне італьянскія анекдоты пра адносіны мужчын і жанчын, на якія я слаба рэагую, бо італьянскі гумар — даволі тонкая рэч. Аркестр бачыць нас як Мафусаіла і яго прапраўнучку. «Колькі табе гадоў?» — пытае Маэстра, а пасля адказу падлічвае, што ў чатыры разы старэйшы за мяне. Узрост, а дакладней старасць — рэч, якая найбольш яго клапоціць. Ён абураецца на віншаванні з днём народзінаў і глядзіць на мяне, як на недарэку, калі я папраджваю яго аб прыступках на шляху да ліфта. «Я малады, я раблю зарадку і правільна харчуюся. Калі б ты рабіла зарадку і правільна харчавалася, не важыла б 45», — паўтарае ён.

### «Мне хапае апладысментаў»

У дзень перад канцэртам мы засядаем у грымёрцы Маэстра і абмяркоўваем пытанні паўсядзённасці. Ён спакойны і шчаслівы. Спачатку размаўляем пра моладзь і пра тое, ці прыйдзе на яго канцэрт хто-небудзь маладзейшы за 50. Пасля яго жонка пытае ў мяне пра Беларусь: «Што тут не так? Паветра нейкае цеснае. І чаму ніхто не ўсміхаецца?» Тут дзядуля згадвае: «Мне гэта крыху нагадвае ГДР. Я памятаю, як мы прыехалі туды адразу пасля вайны, каб даць канцэрт. Тыя ж суворыя паліцэйскія, памежнікі хадзілі па вагонах з дубальтоўкамі. Для нас гэта было дзікасцю. І паветра там было такое ж, цяжка дыхаць, цяжка граць музыку, бо музыка патрабуе ўнутранай волі ў сэрцах тых, хто яе выконвае». Марыя, жонка Эніа, пачынае расказваць мне пра часы Мусаліні і параўноўваць «Мінск-Арэну» са стадыёнам, пабудаваным ім у Рыме для правядзення спартовых гульняў. «Усе яны любяць гуляцца ў салдацікі, а салдацікі, у сваю чаргу, павінны быць моцнымі і натрэніраванымі», — падсумоўвае жанчына.

На канцэрце мяне просяць быць побач з Марыяй. Яна разам з сынам сумленна набывае квіткі ў партэр і прызнаецца, што ў Італіі самы дарагі квіток на імпрэзу мужа каштуе 100 еўра. «Адкуль такая розніца ў даходах і цэнах? Наш прадзюсар заплаціў тут каля 120 даляраў за тое, каб аддаць у хімчыстку гарнітур. У Штатах ён плаціць за гэта ў пяць разоў меней», — абураецца яна. Тут святло патухае, і на сцэну выходзіць Маэстра: у чорным гольфіку і чорным гарнітуры. Ён так рады апладысментам, што нават пачынае хутчэй рухацца. Праз секунду ён ужо ўзвышаецца над аркестрам, паварочваецца да слухачоў спінай і паднімае ў паветра палачку. «Вось дзеля гэтага мы і вандруем. У такія моманты ён сапраўды адчувае сябе маладым і запатрабаваным», — кажа Марыя.

Беларусы як публіка італьянцам спадабаліся. «Толькі не разумею, навошта мне людзі кветкі дораць. У нас кветкі — падарунак для жанчын. А мне хапае апладысментаў і запрашэнняў даць канцэрт у новым месцы. Хутка паедзем у Сафію», — і ён пачынае пералічваць гарады, дзе яшчэ плануе даць канцэрты.

Калі мне прапанавалі папрацаваць памочнікам Маэстра, сябры ганарыліся і жартавалі, маўляў, будзеш апошняй перакладчыцай Марыконэ. Але пасля гэтых шасці дзён арганізацыйнага трэшу, гучнай сімфанічнай музыкі, дурацкіх інтэрв'ю і задушэўных размоваў я шчыра спадзяюся, што дзядуля ўвойдзе ў «Кнігу рэкордаў Гінэса» не толькі паводле колькасці выпушчаных саўндтрэкаў, але і паводле пражытых гадоў.

**34mag.net**

## Сцісла

### Памерла нобелеўская лаўрэатка



Брытанская пісьменніца Дорыс Лесінг памерла ў 94 гады. У 2007-м яна атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры за «за поўнае скепсісу, жарсці і празорчай сілы разуменне досведу жанчын». Лесінг нарадзілася ў Іране, але ад 1937-га жыла ў Англіі. Сярод яе твораў — «Залаты сшытак», «Інструкцыя да спуску ў пекла», «Пятае дзіця».

### «Пiлiпка» заваяваў Маскву

Беларускі мультфільм «Піліпка» Таццяны Кубліцкай удастоены Гран-пры конкурсу анімацыйных фільмаў X Міжнароднага дабрачыннага кінафестывалю «Прамяністы анёл», які завяршыўся ў Маскве. У аснову сюжэту пакладзена беларуская народная казка пра маленькага хлопчыка, які сваёй дабрынёй здолеў размякчыць сэрца злой Бабы Ягі і выратаваць сваё жыццё.

### Трыпціх Бэкана прадалі за $142 млн

Трыпціх «Тры эцюды Люсьена Фрэйда» Фрэнсіса Бэкана (не блытаць з філосафам XVII ст.) быў прададзены за $142,4 млн на аўкцыёне Christie's у Нью-Ёрку — гэта самая высокая цана за твор мастацтва ў гісторыі аўкцыёна. Работа Бэкана пераўзышла па кошце карціну Эдварда Мунка «Крык». Апошнюю летась прадалі на Sotheby's амаль за $120 млн.

### Выйшла новая кніга Рыгора Барадуліна

«Вушацкі словазбор», што выйшаў у выдавецтве «Беларускі кнігазбор», стаў 47-м выпускам у серыі «Кнігарня пісьменніка». У 400-старонкавы фаліянт увайшоў слоўнік, а таксама прыказкі, прымаўкі, пажаданні, загадкі, дзіцячыя гульні, якія збіраліся Барадуліным каля 60 гадоў.

**МК**

# Самае халоднае месца ў Сусвеце мае форму прывіду

Не палохайцеся — гэта не нябесны прывід ці вялізны касмічны цыклоп. Гэта — выява знакамітай туманнасці Бумеранг, зробленая ў радыёдыяпазоне сеткай субміліметровых радыётэлескопаў ALMA. На фота атрыманая карта радыёвыпраменьвання («прывід») накладзена на здымак, зроблены ў бачных прамянях.

Астраномы здаўна праяўляюць цікавасць да гэтага незвычайнага газавага воблака, якое знаходзіцца ў паўднёвым сузор'і Цэнтаўра. Бумеранг з'яўляецца планетарнай туманнасцю на самай ранняй стадыі, і яго даследаванне дапамагае вучоным даведацца больш пра апошнія гады жыцця зорак.

На здымках, зробленых зямнымі тэлескопамі ў бачным дыяпазоне, туманнасць выглядае перакошанай і выгнутай, быццам бумеранг, ад чаго яна і атрымала сваю назву. Але на больш глыбокіх фота, атрыманых тэлескопам імя Хабла, можна заўважыць, што газ, выкінуты з зоркі, прасціраецца нашмат далей, надаючы туманнасці форму, хутчэй падобную да гальштука-матылька.

Газ, які пастаянна выкідваецца зоркай, хутка пашыраецца і дзякуючы гэтаму ахаладжваецца — падобным чынам дасягаюцца нізкія тэмпературы ў звычайным халадзільніку. Даследчыкам удалося вымераць тэмпературу гэтага газу, і яна здзівіла вучоных — усяго толькі на 2.8 градуса вышэй за абсалютны нуль. Такім чынам, гэтае месца з'яўляецца самым халодным з вядомых нам месцаў у Сусвеце (хаця яшчэ год таму пальму першынства тут трымаў касмічны тэлескоп «Планк» — яго сэнсары мелі тэмпературу ўсяго 0.1 кельвіна)

Вучоныя спадзяюцца, што даследаванне такіх планетарных туманнасцяў на ранніх стадыях дазволіць знайсці адказы на многія пытанні, звязаныя са смерцю зорак і раскажа нам пра далёкую будучыню нашага Сонца.

**Віктар Малышчыц**



**Планетарныя туманнасці**

Нягледзячы на сваю назву, не маюць нічога супольнага з планетамі. Гэтыя аб'екты ўтвараюцца, калі зорка невялікай масы заканчвае сваё жыццё. Магутны зорны вецер, які выходзіць з гарачага ядра зоркі, здзьмувае яе замежную газавую абалонку. Яна разлятаецца ў навакольнай прасторы і пад дзеяннем ультрафіялетавых прамянёў з ядра пачынае свяціцца рознымі колерамі, утвараючы такім чынам адзін з самых прыгожых аб'ектаў у Сусвеце. Само ж ядро зоркі сціскаецца да памераў зямнога шара — шчыльнасць рэчыва ў такім аб'екце можа дасягаць дзясятка тон на кубічны сантыметр. Дарэчы, наша Сонца скончыць свой жыццёвы шлях таксама з утварэннем планетарнай туманнасці.

# Камета, якую знайшоў беларус, можа стаць падзеяй стагоддзя

За апошнія дні камета ISON яскрава разгарэлася. Калі гэта не прыкмета рассыпання яе на дробны мак, дык хвост каметы зробіцца яшчэ ярчэйшы. Тады нас будзе чакаць найпрыгажэйшы нябесны спектакль, якога не было ад першай паловы XIX стагоддзя.

Камету C/2012 S1 (ISON) выпадкова знайшоў беларускі астраном Віталь Неўскі. Па многіх якіх параметрах лічылася, што яна пры набліжэнні да Сонца зробіцца найяскравейшым небясным целам. Некаторыя казалі, што будзе нават бачная ўдзень.

Але з каметамі, як з надвор'ем — не ўсе прагнозы здзяйсняюцца. Ніколі не вядома, колькі пылу з халоднага ядра вытапяць гарачыя прамяні Сонца.




У кастрычніку ISON расчаравала астраномаў, яна разгравалася вельмі няспешна. Ужо нават пайшла гаворка пра найвялікшае расчараванне. Але раптоўна 13 лістапада адбыўся сполах. За тры дні камета шуганула так, што ў 16 разоў павялічыла свой бляск. 15 лістапада яна стала бачная чалавечаму воку.

Найлепш яеназіраць за гадзіну да світання, калі, зразумела, дазволіць на тое надвор'е. Пабачыць яе можна над паўднёва-ўсходнім даляглядам. Шкада, што ў гэтыя дні неба зацягнута хмарамі і можна толькі марыць пра ясныя, марозныя ночы.

Па словах астраномаў, камета будзе рабіцца ўсё ярчэйшай. 28 лістапада ISON наблізіцца да Сонца найбліжэй (1,2 млн км ад паверхні). Тады ядро каметы наймацней разагрэецца ад цяпла і пачнецца яскравая дзея на небе. Пры гэтым камета можа рассыпацца, разрываючыся пад уплывам цяпла і прыцягнення. Гэта нябесная трагедыя можа стацца вынатным відовішчам для жыхароў Зямлі.

Некалі смерці каметаў Ikeya-Seki ў 1965 годзе і West у 1976 годзе былі вельмі маляўнічымі. Не так цікава будзе, калі распад каметы адбудзецца яшчэ перад тым, як яна даляціць да Сонца. Тады камета проста хутка выпаліцца і заўчасна згасне.

Найлепшы час для назірання, калі камета ацалее, будзе пасля таго, як ISON абляціць Сонца, пачне аддаляцца ад зоркі ды наблізіцца да Зямлі. Дарэчы, найбліжэй падляціць камета да нашай планеты якраз ў ноч на 25 снежня, на Божае Нараджэнне. Засталося толькі чакаць на калядны нябесны падарунак.

**Руслан Равяка**

# Раздрукуй сабе самалёт

Амерыканскі музей выклаў 3D-мадэлі ў вольны доступ.

Смітсанаўскі музей у ЗША запусціў праект Smithsonian X 3D Collection — інтэрнэт-партал з трохвымернымі мадэлямі з экспазіцыі розных музеяў і ўніверсітэцкай калекцыі. Трохвымерныя выявы ствараліся з дапамогай камп'ютарнай тамаграфіі, лазернага сканавання, фотаграметрыі.

Цяпер на сайце праекта знаходзяцца некалькі дзясяткаў экспанатаў: скіліца дагістарычнага дэльфіна, акамянелы выкапнёвы кіт, мадэлі кветкі архідэі, пчалы, шкілета маманта, лётны строй Амеліі Эрхарт, якая знікла падчас спробы сусветнага пералёту, самалёт братоў Райт, прыжыццёвая маска прэзідэнта Лінкальна.

Усе мадэлі можна праглядаць на сайце, аднак можна спампаваць сабе на камп'ютар файл з выявай, каб потым раздрукаваць яго на 3D-прынтары. Кіраўніцтва Смітсанскага музея плануе і далей ствараць трохмерныя мадэлі экспанатаў і выкладаць іх у сеціва, каб зрабіць іх больш даступнымі для азнаямлення і вывучэння.

**КХ**


3D-мадэль пчалы.

# Безалкагольны алкаголь

Пахмелле можа **застацца ў мінулым.**

Прафесар Дэйвід Нат, нейрафізіяфармаколаг з Брытаніі, заявіў, што распрацоўвае рэчыва, якое па сваім эфекце будзе дубляваць алкаголь, але без негатыўных эфектаў.

«Алкаголь забівае 2,5 мільёна жыццяў штогод, больш за малярыю і СНІД. Прычына гэтаму вядомая: алкаголь мае таксічнае ўздзеянне на ўсе сістэмы органаў», — піша навуковец. Нат кажа, што вышцем можа быць ці павышэнне цэнаў, на што не асмельваюцца ўлады, ці стварэнне нетаксічнага аналага.

Нат паведамляе, што ўжо сінтэзаваў пяць хімічных рэчываў, якія наўпрост уздзейнічаюць на нейратрансмітэрную сістэму гама-амінаалейнай кіслаты і павялічваюць яе выкід. А менавіта гама-амінаалейная кіслата інгібіруе нейраімпульсы і «супакойвае» мозг — тое самае адбываецца, калі чалавек п'е алкагольныя напоі.

Адрозненне Натавага «наркотыка» ад гарэлкі ці піва ў тым, што рэчыва будзе ўздзейнічаць наўпрост на мозг, таму атрутныя метабаліты алкаголю не будуць шкодзіць унутраным органам чалавека, а пасля «штучнай п'янкі» не застанецца і намёку на пахмелле. Пры гэтым яшчэ адной важнай адметнасцю з'яўляецца магчымасць стварэння антыдоту, які можа хутка перарваць дзеянне замяняльніка алкаголю.

Дэйвід Нат напісаў, што ўжо выпрабаваў сваё вынаходніцтва на сабе, пасля чаго адчуў расслабленасць і санлівасць цягам гадзіны, але прыняў антыдот і неўзабаве даваў лекцыю студэнтам. Нат таксама паведаміў, што хацеў бы пачаць выпрабаванні безалкагольнага алкаголю на людзях, каб параўнаць эфект з уздзеяннем традыцыйных напояў. Але галоўнай цяжкасцю Нат лічыць вывад падобнага прадукту на рынак без канфлікту з алкагольнай індустрыяй.

**Кірыла Хілько**

# Праз дваццаць гадоў

Апавяданне. О.Генры.

Паліцыянт, які патруляваў праспект, вылучаўся сваёй імпазантнасцю. Імпазантнасць была натуральная, а не робленая на публіку, да таго ж і гледачы трапляліся рэдка. Не было яшчэ і дзесяці гадзін вечара, а сцюдзёныя парывы ветру з водарам дажджу паразганялі з вуліц амаль усіх людзей.

Праходзячы міма будынкаў, ён торгаў за дзверы, мудрагеліста і па-майстэрску пакручваў дручком і час ад часу азіраўся, каб абвесці пільным позіркам ціхую дарогу — дужы і злёгку фанфараваты, гэты афіцэр ствараў цудоўны вобраз ахоўніка спакою. У наваколлі спаць кладліся рана. Сям-там гарэла святло ў вокнах цыгарнай крамы або кругласутачнай сталоўкі, але большасць дзвярэй належалі да ўстановаў, якія ўжо даўно зачыніліся.

Прайшоўшы толькі палову аднаго з кварталаў, паліцыянт раптам запаволіў хаду. Да дзвярэй неасветленай гаспадарчай крамы прыхіліўся мужчына з незапаленай цыгарай у роце. Варта было паліцыянту да яго падысці, як ён хуценька загаварыў.

— Усё ў парадку, афіцэр, — сказаў ён добразычлівым тонам. — Проста сябра чакаю. Мы дамовіліся тут сустрэцца дваццаць гадоў таму. Нечакана гучыць, праўда? Каб вы не сумняваліся, што ўсё ў парадку, магу растлумачыць. Прыкладна ў той час на месцы гэтай крамы быў рэстаран — «У Вялікага Джо Брэйдзі».



**О.Генры**

Амерыканскі пісьменнік, празаік, аўтар папулярных навелаў, гумарэсак. Сапраўднае яго імя — Уільям Сідні Портэр. Нарадзіўся Уільям у 1862-м у Грынсбара, штат Паўночная Караліна. Маці памерла, калі яму было тры гады. Бацька, бедны правінцыйны лекар, пасля смерці жонкі запіў. У дваццаць гадоў Уільям пераехаў у Тэхас. Працаваў аптэкарам, фермерам, гандляром, касірам у банку, журналістам. Уцякаў у Гандурас, дзе хаваўся ад пакарання ў растраце грошай. Аднак вярнуўся ў Тэхас і быў асуджаны да пяці гадоў зняволення (адбыў 3,5). Менавіта ў турме ён і заняўся літаратурнай творчасцю і ўзяў псеўданім О.Генры. Першае апавяданне «Калядны падарунак па-мексіканску» было надрукавана ў 1899 годзе. Па выхадзе на волю перабраўся ў Нью-Ёрк. Апошнія гады пакутваў ад алкагалізму. Памёр у 1910-м. Усяго О.Генры напісаў 273 апавяданні.



— Яго знеслі пяць гадоў таму, — адказаў паліцыянт.

Чалавек ля дзвярэй чыркнуў запалкай і прыкурыў цыгару. Полымя асвятліла бледны твар з квадратнай сківіцай і пранізлівымі вачыма, а таксама маленькі шнар каля правага брыва. Шалік быў на дзіўны манер заколаты шпількай з вялікім дыяментам.

— У гэтую ноч спаўняецца роўна дваццаць гадоў, — пачаў расказваць чалавек, — як я абедаў тут, у Вялікага Джо Брэйдзі, з Джымі Уэлзам, маім найлепшым прыяцелем і самым файным хлопцам у цэлым свеце. Мы выраслі тут, у Нью-Ёрку, разам, як два браты. Мне было васямнаццаць, а Джымі — дваццаць. Наступнай раніцай я мусіў выправіцца на Захад, каб скалаціць сабе капітал. А Джымі было не выцягнуць з Нью-Ёрка, ён думаў, ва ўсім белым свеце больш і няма нічога. Дык мы тым вечарам і дамовіліся, што зноў сустрэнемся тут роўна праз дваццаць гадоў ад таго дня і той гадзіны, якімі б ні былі абставіны і з якой бы далечыні нам ні давялося прыехаць. Мы разлічвалі, што праз дваццаць гадоў кожны з нас ужо знойдзе свой лёс і заробіць той капітал, які ім наканавана быць.

— Гучыць даволі цікава, — адказаў паліцыянт. — Але ж здаецца, занадта вялікі інтэрвал паміж сустрэчамі. Няўжо вы так нічога і не чулі пра сябра пасля ад'езду?

— Дык так, нейкі час мы ліставаліся, — прамовіў той.— Але праз год-два згубілі след адзін аднаго. Разумееце, Захад — гэта даволі заманлівая прапанова, і я даволі жвава ўзяўся за працу. Але я ведаю, што Джымі прыйдзе сюды сустрэцца, калі толькі ён жывы, бо ён заўсёды быў самы верны, самы адданы стары сябар у свеце. Ён не забудзецца. Я праехаў тысячу міляў, каб сёння ўвечары стаяць каля гэтых дзвярэй, і калі мой стары таварыш з'явіцца, то яно таго варта.

Той, хто чакаў сябра, выцягнуў прыгожы гадзіннік з вечкам, упрыгожаным дыяментамі.

— Без трох хвілін дзесяць, — аб'явіў ён. — Было роўна дзесяць, калі мы рассталіся на гэтым месцы каля дзвярэй рэстарана.

— Паспяхова папрацавалі на Захадзе, як я бачу, — заўважыў паліцыянт.

— Анягож! Спадзяюся, Джымі зарабіў хаця палову ад таго. Хоць і добры быў хлапчына, але было ў ім штось ад валацугі. Я мусіў спаборнічаць з найсвятлейшымі галовамі, каб яны мяне не абставілі. А ў Нью-Ёрку чалавек трапляе ў каляіну. Каб загартаваць чалавека, патрэбны Захад.

Паліцыянт крутануў дручком і зрабіў крок-другі.

— Трэба ўжо ісці. Спадзяюся, ваш сябар прыйдзе ў час. Калі зараз не з'явіцца, адразу пойдзеце?

## Дам яму не менш за паўгадзіны. Калі Джымі яшчэ на гэтым свеце, гэтага часу яму хопіць

— Ні ў якім разе! — адказаў другі. — Дам яму не менш за паўгадзіны. Калі Джымі яшчэ на гэтым свеце, гэтага часу яму хопіць. Бывайце, афіцэр.

— Добрай вам ночы, сэр, — адказаў паліцыянт і вярнуўся на свой маршрут, торгаючы па дарозе дзверы.

Была цудоўная халодная імжа і пасля няпэўных парываў вецер стаў дзьмуць няспынна. Рэдкія пешаходы, што рухаліся па квартале, у панурай і бязгучнай спешцы праходзілі міма з высока паднятымі каўнярамі палітонаў, засунуўшы рукі ў кішэні. А ля дзвярэй гаспадарчай крамы чалавек, які праехаў тысячу міль на няпэўную амаль да абсурду сустрэчу з сябрам юнацтва, чакаў і курыў цыгару.

Ён прачакаў хвілін дваццаць, калі з супрацьлеглага боку вуліцы спешна стаў набліжацца высокі чалавек у доўгім палітоне з паднятым да вушэй каўняром. Ён ішоў проста на таго, хто чакаў.

— Гэта ты, Боб? — няпэўна спытаў ён.

— Гэта ты, Джымі Уэлз? — закрычаў чалавек ля дзвярэй.

— Блаславі цябе Бог! — гукнуў прыбыш і схапіў сябра за абедзве рукі. — Гэта Боб, немінучы, як лёс. Не сумняваўся, што знайду цябе тут, калі ты яшчэ на гэтым свеце. Вось дык так! Дваццаць гадоў — доўгі тэрмін. Старога рэстарана ўжо няма, Боб, а хацеў бы я, каб ён нас дачакаўся і мы яшчэ раз у ім павячэралі. Ці добра абыходзіўся з табой Захад, стары?

— Па галоўцы не гладзіў. Але ж даў мне ўсё, пра што я прасіў. А ты моцна змяніўся, Джымі. Мне заўсёды здавалася, што ты меншы цалі на дзве-тры.

— О, я трохі рос яшчэ і пасля дваццаці гадоў.

— Як твае поспехі ў Нью-Ёрку, Джымі?

— Нішто сабе. Займаю пасаду ў адной установе. Боб, я ведаю адно месца, давай пройдземся туды і добра пагутарым пра старое.

Двое рушылі па вуліцы рука ў руку. Чалавек з Захаду, чыя ганарлівасць стала празмернай праз поспех, пачаў расказваць гісторыю сваёй кар'еры. Другі занурыўся ў палітон і з цікавасцю слухаў.

На рагу ззяла ў электрычных агнях, як брыльянт, аптэка. Калі яны выйшлі на святло, то абодва адначасова павярнуліся, каб зірнуць адзін аднаму ў твар.

Чалавек з Захаду раптам спыніўся і вызваліў руку.

— Ты не Джымі Уэлз! — выкрыкнуў ён. — Дваццаць гадоў — вялікі тэрмін, але і за гэты час рымскі нос не ператворыцца ў бульбіну.

— Бывае, што за гэты час добры чалавек робіцца благім, — адказаў высокі. — Ты ўжо дзесяць хвілін як арыштаваны, Шаўковы Боб. У Чыкага падумалі, што ты на нашай тэрыторыі, і даслалі нам тэлеграму, што хацелі б з табой пагутарыць. Ну і ціха ж ты перасоўваешся, праўда? Відавочна, што так і ёсць. Дык вось, перш чым мы адправімся да ўчастка, маю тут паперку, каб перадаць табе цыдулку. Можаш тут, каля вітрыны, і прачытаць. Яна ад патрульнага Уэлза.

Чалавек з Захаду разгарнуў аркушык паперы, які яму далі. Ён трымаў руку роўна, калі пачаў чытаць, а калі дачытаў, яна ўжо злёгку дрыжала. Цыдулка была даволі кароткай.

«Боб, я прыйшоў на месца, як і дамаўляліся. Калі ты чыркнуў запалкай, каб прыкурыць цыгару, то я ўбачыў аблічча таго, хто аб'яўлены ў вышук у Чыкага. Чамусь я не змог зрабіць гэтага сам, таму вярнуўся і паслаў на задание чалавека ў цывільным.

ДЖЫМІ».

З англійскай пераклаў Павел Донаў

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Сальнокі»



**20 лістапада** ў рамках турніра «Еўрачэлендж» сталічная каманда прыме венгерскі клуб «Сальнокі». Гульня пройдзе на «Мінск-Арэне». Пачатак а 19.

## ХАКЕЙ

### Хатняя серыя «Дынама»

**22 лістапада** «зубры» прымуць башкірскі «Салават Юлаеў». Пачатак а 19. **24 лістапада** — магнітагорскі «Металург». Пачатак а 17. **26 лістапада** — ніжнякамскі «Нафтахімік». Пачатак а 19. Усе гульні пройдуць на «Мінск-Арэне».

## ФУТБОЛ

### «Дынама» — БАТЭ

**На выхадных пройдуць матчы 31-га тура Чэмпіяната Беларусі па футболе.** Усе сустрэчы пачынаюцца а 13. **23 лістапада** сустракаюцца:
«Нафтан» (Наваполацк) — «Славія» (Мазыр);
«Дняпро» (Магілёў) — «Белшына» (Бабруйск);
«Дынама» (Брэст) — «Мінск».
**У нядзелю:**
«Нёман» (Гродна) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Гомель» — «Шахцёр» (Салігорск);
«Дынама» (Мінск) — БАТЭ (Барысаў).

## ІМПРЭЗЫ

### «Лятучы стол Караткевіча»

**26 лістапада а 19-й у кнігарні «логвінаЎ»** — заключная імпрэза «Быў. Ёсць. Буду». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прадставіць першыя чатыры тамы поўнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча.

## КАНЦЭРТЫ

### Ляпіс Трубяцкой

**30 лістапада а 19-й у Вільні, на Siemens Arena (Ozo gatvė, 14)** — «Ляпіс Трубяцкой» з прэзентацыяй альбома «Грай». Яшчэ можна знайсці білеты.

### Madera Hard Blues

**20 лістапада а 21-й у TNT (Рэвалюцыйная, 9)** — канцэрт гурту Madera Hard Blues.

### Зміцер Вайцюшкевіч

**21 лістапада а 19-й на Артсядзібе (зав.Інструментальны, д.6, оф.105)** — канцэрт Змітра Вайцюшкевіча.

### Паліна Рэспубліка

**24 лістапада а 21-й у TNT (Рэвалюцыйная, 9)** — канцэрт Паліны Рэспублікі.

### Кася Камоцкая

**29 лістапада а 19-й у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — канцэрт Касі Камоцкай.

### NAKA

**28 лістапада а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту NAKA.



## ВЫСТАВЫ

### СтART 60

**Ад 22 лістапада да 5 снежня ў «Галерэі Мастацтва» (пр. Незалежнасці, 12)** працуе выстава аднаго з самых яскравых мастакоў Беларусі Алеся Марачкіна пад назвай «СтART 60».

### Арт-лінія

**Да 12 снежня ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі** працуе VI Мінская Міжнародная выстава графікі «Арт-лінія». Увазе гледачоў будзе прадстаўлена падборка афортаў розных краін Еўропы (Вялікабрытанія, Германія, Францыя) XVIII-XX стст., а таксама тэматычная кніжная выстава «Колер у чорнабелым», прысвечаная 500-годдзю афорта.

### Дэкадзіроўка. Архетып адэкватнага часу

**Да 23 лістапада ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Дэкадзіроўка. Архетып адэкватнага часу», прадстаўленая ў верасні-кастрычніку 2013-га на 5 Маскоўскай біенале сучаснага мастацтва. У аснову праекта пакладзены роздум аб камунікацыі ў грамадстве, аб самаідэнтыфікацыі чалавека ў метраполіі, аб захаванні індывідуальнасці ў сучасным свеце.

### Сучасны японскі дызайн

**Да 24 лістапада ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Сучасны японскі дызайн», на якой можна ўбачыць лепшыя ўзоры прамысловага дызайну Японіі 1990—2000-х, а таксама прадметы дызайну паваеннага перыяду. Гэта прадметы штодзённага ўжытку: мэбля, вопратка, посуд, электрычныя прыборы…



Фотафакт

## ТЭАТРЫ

### 20 лістапада

**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 21 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 22 лістапада

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 23 лістапада

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Сем прыгажуняў»

### 24 лістапада

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў»
**Оперы і балета** — «Сем прыгажуняў»

### 26 лістапада

**Оперы і балета** — «Тоска»

### 27 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Оперы і балета** — «Трышчан і Іжота. Балеро»

### 28 лістапада

**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 29 лістапада

**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

## КІНО

### Вядро крыві для каралевы балю

Тэлекінез
Драма, трылер
**Рэжысёр:** Кімберлі Пірс
**У ролях:** Хлоя Грэйс Морац, Джуліяна Мур, Джудзі Грыр, Энсел Элгарт, Габрыэла Уайлд
ЗША, 100 хв.

Кэры, дачка фанатычнай хрысціянкі Маргарэт Уайт, — «народжаная ў граху». Грахом для Маргарэт з'яўляецца любая праява сэксуальнасці і палавога сталення, таму Кэры ў свае шаснаццаць праз гэта аказваецца ў непрыемнай сітуацыі. Ёй забаронена амаль усё, што робяць звычайныя падлеткі. Адзінае жаданне дзяўчынкі — быць як усе. Да таго ж набліжаецца выпускны баль, і нечакана Кэры запрашае туды аднакласнік. Чым гэта можа абярнуцца для сціплай дзяўчынкі са здольнасцю да тэлекінезу?

Экранізацыя-рымэйк першага апублікаванага рамана Стывена Кінга найбольш звяртаецца да драматычнага складніка арыгінала, чым да першай экранізацыі. Дзеянне перанесенае ў нашы дні: перад гледачом тыповая амерыканская школа з яе няпростай атмасферай пераходнага ўзросту. Праз абмежаванні і здзек Кэры адкрывае сябе новую, з выключнымі здольнасцямі. Толькі атмасфера зусім не пасуе для мірнай іх праявы.

Каму варта паглядзець: аматары Кінга застануцца задаволенымі, хоць некаторыя дэталі і зменены. Стужка парадуе і аматараў тэмы звышздольнасцяў.

Каму глядзець не варта: калі не любіце жахі і асабліва псіхалагічны здзек.

**Настасся Уласава**

CARRIE

# Усе сакрэты покера

**У свеце спрачаюцца, ці лічыць покер спортам, ці не. Але ёсць людзі, якія добра на ім зарабляюць.**

У суседняй Расіі статус спорту покеру надалі ў 2007-м, але ўжо праз два гады яго забралі. Між тым «Еўраспорт» вядзе трансляцыі покерных турніраў.

Мы пазнаёміліся з беларускім пакерыстам. Жэня, 25 гадоў, выпускнік БДЭУ. Гульнёй у покер зарабляе прыкладна 2 тысячы даляраў за месяц.

**«Наша Ніва»: Як ты пачынаў сур'ёзную гульню?**

**Яўген:** На другім курсе я ўжо гуляў у покер на сайце Укантакце. Выходзіла нядрэнна, галоўнае, што было цікава — у мяне аналітычны розум, з дзяцінства мне падабаліся задачы на логіку, а матэматыка была ўлюбёным прадметам. Стратэгічнае мысленне адбілася і на гульні: з часам я пачаў вывучаць інфу ў інтэрнэце, пазней — купляць падпіскі на відэа замежных гульцоў. Капіяваў іхнія прыёмы, адсочваў ходы, удумаўся ў тактыку. Пазней перайшоў з Укантакце на адмысловыя сайты, дзе можна зарабляць.

**«НН»: А як ты адважыўся перайсці на покер «на поўную стаўку»?**

**Я:** Калі скончыў наргас, па размеркаванні трапіў у мінскую філію аднаго дзяржаўнага банка. Шмат хто з аднакурснікаў усцешыўся б, што не выслалі ў вёску бухгалтарам, як і я спачатку. Але праз колькі месяцаў зразумеў, што больш не хачу губляць час і здольнасці на прыём плацяжоў. Да таго ж у банку плацілі капейкі, а працаваць трэба было шмат.

Такая праца хутка абрыдла, і я нават некалькі разоў браў ліпавыя «бальнічныя» ад доктара. У гэты час я гуляў. За тыдзень на покеры я зарабляў удвая больш, чым за месяц у банку! Урэшце я пазычыў грошы ў сяброў і заплаціў за гады навучання ва ўніверсітэце. Інвестыцыя ў 5 тысяч даляраў акупілася за паўгода.

**«НН»: Наколькі вялікая рызыка ўсё прайграць? Ці здаралася такое?**

**Я:** Усяго ніколі не прайграваў, я абсалютна не азартны і падчас гульні кіруюся выключна логікай, імкнуся гуляць рацыянальна, прадумана. Але бывала, што прайграваў за дзень больш як тысячу даляраў. Перажываеш, вядома, але пазней усё роўна мусіш вярнуцца да гульні, без эмоцыяў. Насамрэч, калі эмоцыі выключаны і гуляеш з розумам, абапіраючыся на пэўныя веды і досвед, рызыка прайграць шмат — мінімальная.

**«НН»: Ці ёсць правілы, якія нельга парушаць?**

**Я:** Галоўнае — не гуляць на вялікіх стаўках, калі на покерным рахунку няма дастатковай сумы. Калі шмат прайграеш, мусіш спусціцца на ніжэйшыя стаўкі, узнавіць банкрол (агульная колькасць сродкаў, якія гулец выдзяляе на гульню ў покер), гэта заўжды цяжка. Звычайна ў пакерыстаў у ходу ідзе статыстыка на гульцоў, тэорыя імавернасці (дзякуй універу!), звычайная логіка, тэорыі гульняў.

Істотны час, у які гуляеш: раніцай, напрыклад, сядзяць менш дасведчаныя гульцы, якіх лёгка абгуляць.

Найлепшая тактыка для мяне — старацца знайсці памылкі гульцоў і выкарыстоўваць іх.



Нельга сядаць за стол стомленым ці раздражнёным

**Покер**

Картачная гульня, мэта якой — выйграць стаўкі, сабраўшы як мага больш высокую покерную камбінацыю, выкарыстоўваючы 4 (стары класічны варыянт) або 5 карт ці прымусіўшы ўсіх супернікаў спыніць удзельнічаць у гульні. Гульня ідзе з цалкам або з часткова закрытымі картамі. Канкрэтныя правілы могуць вар'іравацца ў залежнасці ад разнавіднасці покера. Супольнымі элементамі ўсіх разнавіднасцяў покера з'яўляюцца камбінацыі і наяўнасць торгу ў працэсе гульні.

Вялікае значэнне мае псіхалогія — за 5 гадоў я выпрацаваў свае прыёмы ўздзеяння на суперніка, выдаваць якія не буду.

Але адно правіла агульнае для ўсіх: нельга сядаць за стол у дрэнным настроі ці стомленым.

**«НН»: Як адбіваецца такая праца на тваім жыцці? Пайшоў бы працаваць за такія ж грошы ў фірму?**

**Я:** Хіба не: я ўжо звыкся залежаць толькі ад сябе і самому вызначаць працоўны дзень (хоць ён такі ж, як на любой офісный працы). Многія ўспрымаюць покер як штосьці, у чым «пашчасціць — не пашчасціць», а я ўжо ўпэўніўся, што ў доўгатэрміновай перспектыве можна заўсёды выходзіць на добры плюс.

З другога боку, прафесіяналы ў фірмах у маім узросце зарабляюць не менш, а з часам будуць зарабляць больш, чым я на покеры. А працаваць «падымацца» ў гульні пасля пэўнага моманту ўсё больш складана. Цяпер на адмысловых старонках ужо не так шмат дрэнных гульцоў, як колькі гадоў таму. Усё часцей бачу, што пад нікам кшталту Коцік12 хаваецца дасведчаны пакерыст. Так што, каб зарабляць прыстойна, даводзіцца апаноўваць усё новыя стратэгіі і не стамляцца вучыцца.

**Гутарыла Марына Вашкевіч**

**Фотафакт**



**«Слуцк» выйшаў у вышэйшую лігу**

Пяці гадоў хапіла футбольнаму «Слуцку», каб выйсці ў вышэйшую лігу. Каманда ўтварылася ў 1998-м, аднак дзесяць гадоў выступала ў чэмпіянаце Мінскай вобласці. У 2008-м «Слуцк» дэбютаваў у другой лізе. Сярод гульцоў «Слуцка» ёсць вядомыя па выступах за БАТЭ Яўген Лашанкоў, Аляксей Халецкі, Вячаслаў Грыгараў, па мінскім «Дынама» — Антон Рабцаў. Відавочна, каб гуляць у «вышцы» камандзе давядзецца ўзмацняцца. Галоўным спонсарам каманды выступае Слуцкі цукровы завод. У стыкавых матчах за права выхаду ў вышэйшую лігу згуляе яшчэ адна «цукровая» каманда — «Гарадзея».

## Віталь Кутузаў дыскаліфікаваны ва ўсім свеце



ФІФА пашырыла санкцыі супраць 26 футбалістаў і аднаго арбітру за ўдзел у дамоўных матчах у Італіі. Дыскваліфікаваныя не змогуць браць удзел не толькі ва ўнутраным першынстве, але і ў спаборніцтвах ва ўсім свеце.

Гэта непасрэдна датычыць і беларускага футбола, бо санкцыі распаўсюджваюцца на Віталя Кутузава. 33-гадовы пінчук ад 2001 года жыве ў Італіі. Некалі яго падчас гульняў з БАТЭ заўважыў славуты «Мілан». Аднак у камандзе Сільвіа Берлусконі Кутузаў змог правесці ўсяго два матчы. Праўда, усё ж змог замацавацца на Апенінах. Кутузаў гуляў у многіх камандах — «Авеліна», «Сампдорыя», «Парма», «Піза», «Бары». Гуляў ён і за зборную Беларусі.

Сёлета ў ліпені быў дыскваліфікаваны на 3 гады і 6 месяцаў за ўдзел у матчы па дамоўленасці «Бары» — «Трэвіза». Гульня адбылася яшчэ ў 2008-м, аднак вердыкт быў вынесены зусім нядаўна.

Сам Кутузаў не гаворыць пра гэтую справу. Ён яшчэ афіцыйна не абвяшчаў аб завяршэнні кар'еры, але шанцы яшчэ недзе пагуляць мізэрныя.

**ЗП**

## Сцісла

**«Цмокі» — другія па наведвальнасці**

Больш у Адзінай лізе ВТБ ходзяць толькі на літоўскі «Летувас Рытас». Сярэдняя наведвальнасць хатніх матчаў «Цмокаў» — 4995 чалавек. На гэтым тыдні мінскія баскетбалісты перамаглі казахстанскую «Астану» — 82:68.

**Месі — 10 гадоў у «Барселоне»**

16 лістапада 2003 аргенцінец Ліянэль Месі правёў першую гульню ў складзе «Барселоны». У складзе каталонскага клуба найлепшы футбаліст сучаснасці правёў 395 гульняў, у якіх забіў 327 галоў.

**Беларусь — Албанія — 0:0**

Таварыскі матч па футболе прайшоў у Турцыі. Беларусы мелі істотную перавагу, але не змаглі скарыстаць моманты, а Цімох Калачоў нават не рэалізаваў пенальці.

**Самсонаў з бронзай**

Уладзімір Самсонаў заняў трэцяе месца ў адкрытым чэмпіянаце Германіі па настольным тэнісе. У паўфінале ён прайграў кітайцу Жэньдонь Фаню.

**Шарапава — самая багатая спартсменка свету**

Яна ўзначаліла спіс часопіса Forbes. Гадавы даход тэнісісткі складае 29 мільёнаў даляраў. Прычым 23 з іх яна зарабіла на спонсарскіх кантрактах. На другім і трэцім месцах таксама тэнісісткі — амерыканка Серэна Уільямс і кітаянка На Лі.

**ЗП**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**На гандбол у вышыванцы. На гульні мінскага «Дынама» з «Барселонай» адбыўся аншлаг. Шкада, што нашы гандбалісты выйграць не змаглі — 25:35.**



**Індзейцы 50 плямёнаў сабраліся ў бразільскім горадзе Куяба, каб узяць удзел у XII гульнях карэнных народаў краіны. Яны пазмагаюцца ў такіх дысцыплінах, як стральба з лука, бег з бярвяном, спаборніцтвы на каноэ.**



**Тысячы жыхароў Сан-Францыска дапамаглі 5-гадоваму хлопчыку, які лечыцца ад лейкеміі, выканаць яго мару і стаць на адзін дзень Бэтмэнам.**





## Анекдоты і жарты

* * *

Жоўтыя стыкеры для неадкладных спраў — цудоўная ідэя, але праз паўгода адклейваюцца.

* * *

На пытанне, каго вы больш любіце — бландзінак ці брунетак, сапраўдны мужчына павінен адказваць: «Так!»

* * *

Займаючыся глупствам на працоўным месцы, вы адначасова развіваеце слых, пільнасць і перыферыйны зрок.

* * *

Пасля Ганны Карэнінай чалавецтву засталіся туфлі. На платформе.

* * *

З рубрыкі «Здарэнні»: Дыскатэка «Каму за 70» была разагнаная п'янымі 60-гадовымі падлеткамі.

* * *

Сведкі Іеговы пазванілі ў кватэру раённага пракурора і ўжо праз 15 хвілін змянілі свой статус са сведак на падазраваных.

* * *

— Вітаю! Выбачайце, я першы дзень у інтэрнэце... не падкажаце, што мне рабіць?
— Бяжы... ёлкі-палкі!!! ... Бяжы!!!

* * *

– Чувак, прыязджай да нас на дачу.
– Не хачу.
– Дарма, тут піва, крэветкі, прыгожыя дзяўчаты.
– Тата, другі раз я на гэта не куплюся. Капайце бульбу без мяне.

* * *

Унукі доктара другі год не могуць расчытаць, на каго напісанае завяшчанне.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінскі акружны суд** разглядаў справу Антона і Мікалая Гайсонкаў, Хведара Прыстаўніка, Рыгора і Лаўрэна Арціновічаў, Івана Гарадзёнка і Язэпа Арлоўскага аб згвалтаванні 20-гадовай дзяўчыны Марылі Гуц, з якой прычыны дзяўчына памяшалася і памерла ў Мінску ў бальніцы. Суд засудзіў усіх на катаргу ад 8 да 12 гадоў.

**«НН». №47. 1913.**

**Казуліна зарэтушавалі.** Адстаўка рэктара БДУ Аляксандра Казуліна чакалася даўно, але здарылася неспадзявана. Ён не быў палітыкам, але быў паспяховым чалавекам сістэмы. Ён не быў бізнэсоўцам, але пераўтварыў БДУ ў буйную бізнэс-карпарацыю. І гэта давала падставы некаторым называць яго пераемнікам Лукашэнкі. Сёння Казулін скінуты з уладнай шахматнай дошкі і дазваляе нечаканым для лукашэнкаўца дзёрзкасці.

**«НН». №43. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8050. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 19.11.2013.
Замова №4903.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13043